БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 45 (13577)

2 —8 лістапада 1992 года

Кошт 3 рублі.

## У НУМАРЫ:

"ЗАГАДКА КЛЮЧНІЦЫ МАЛУШЫ". Нават самае геніяльнае пяро не змагло б стварыць нічога больш захапляючага, чым гісторыя палескай прыгажуні, якая жыла адзінаццаць стагоддзяў таму. 7



Да 110-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа. 9



РЭФЕРЭНДУМ АДМЯНІЛІ. ШТО ДАЛЕЙ? 2



"СЛОВА – НЕ ВЕРАБЕЙ". "Прыколы" з беларускага парламента. 3

"У армянскага радыё пытаюцца, чым скончыцца серыял "Багатыя таксама плачуць"? Армянскае радыё адказвае: "Поўнай перамогай Марыяны і ўсяго армянскага народа над азербайджанцамі". Яшчэ 7 АНЕКДОТАЎ ПРА МАРЫЯНУ вы знойдзеце на старонцы 16

# НАГАДВАЕМ, ШТО ПАДПІСКА НА "ЧЫРВОНУЮ ЗМЕНУ" ПРАЦЯГНУТА ДА 15 ЛІСТАПАДА!

## Наш індэкс 63129.

*Падпісны кошт :*

***на паўгоддзе — 108 руб.***

***на 3 месяцы — 54 руб.***

***на месяц — 18 руб.***



Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА** Колькасць камплектаў

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

*Пазіцыя*

## ДА РЭФЕРЭНДУМУ — ЗАКОННЫМ ШЛЯХАМ

Як вядома, на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі большасцю галасоў дэпутаты вырашылі не прызначаць даты рэферэндуму. Пры гэтым народныя выбраннікі кіраваліся тым, што пры зборы подпісаў быццам былі дапушчаны грубыя парушэнні з боку ініцыятыўнай групы.

Што ж збіраецца рабіць апазіцыя і як яна ацэньвае такое рашэнне дэпутатаў? Як зазначыла Валянціна Трыгубовіч, старшыня Камісіі па замежных сувязях БНФ "Адраджэньне", такія дзеянні Вярхоўнага Савета з'яўляюцца парушэннем правоў тых соцень тысяч чалавек, якія паставілі свае подпісы ў бюлетэнях, а таксама парушэннем закона аб рэферэндуме. Вярхоўны Савет, як лічаць апазіцыянеры, не адпавядае свайму прызначэнню, калі парушае ім жа самім выдадзеныя законы. Пакуль жа ўсе партыі, што ўвайшлі ў блок правядзення рэферэндуму, маюць намер сабрацца на нараду, каб намеціць далейшы план дзеянняў. З гэтай жа мэтай пройдзе і канферэнцыя ініцыятыўнай групы. Мяркуецца, што вынікам гэтых мерапрыемстваў стане Зварот да грамадзян Беларусі, які заклікае прыняць удзел ў барацьбе за правядзенне рэферэндуму. Барацьба гэтая будзе весціся, як запэўніла В.Трыгубовіч, толькі законным шляхам.

.Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

## МІНІСТР АДУКАЦЫІ, НА ЖАЛЬ, НЕ ЧАРАЎНІК

Трэцяга лістапада натоўп настаўнікаў, акружаны супрацоўнікамі міліцыі, перакрыў рух транспарту на праспекце Скарыны. Заклікі міліцыі ачысціць праезную частку ігнараваліся.

Галоўным патрабаваннем было павелічэнне заробку. Патрабавалі, каб пошукі крэйды і сшыткаў не ўваходзілі ў абавязкі настаўнікаў. Патрабавалі адказаць, колькі атрымліваюць народныя дэпутаты. Сярод натоўпу быў і міністр адукацыі РБ, які адказваў на пытанні і з сумам глядзеў на Дом урада. Апошні ж пакуль не дае адказу.

Жанна ПАЦЕЕНАК.

## ГАДАВІНА КАСТРЫЧНІКА? АДЗНАЧАЕЦЦА.

7 лістапада – 75-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Здавалася б, пасля ўсяго, што было ў апошні час сказана ў яе адрас, пра свята гэта ўсе забыліся. Але, як высветлілася, гэта не так. Памятаюць пра яго камуністы.

Раніцай 6 лістапада камуністы ўсклалі кветкі да помніка Леніну на плошчы Незалежнасці. А вечарам адбудзецца ўрачысты сход, прысвечаны 75-й гадавіне Вялікага Кастрычніка.

7 лістапада ў 10 гадзін раніцы дэманстранты пад чырвонымі сцягамі зноў збяруцца на плошчы, адкуль пройдуць па праспекце Скарыны да парку Горкага, дзе адбудзецца святочны мітынг. У іншых абласных цэнтрах пройдуць такія ж урачыстасці.

## СВЯТА ФЕРМЕРАЎ

1 лістапада Сялянскі саюз і Сялянская партыя Беларусі правялі ў Палацы культуры Мінскага аўтазавода свята "Поле фермера".

Фермеры, якія прыйшлі ў гэты дзень у Палац культуры, маглі набыць розную тэхніку (была арганізавана выстава-продаж): мотаблокі і прычэпы, касілкі і мінітрактары... Жадаючыя маглі запісацца на трохмесячныя фермерскія курсы, якія праводзіць Беларускі рэспубліканскі вучэбны цэнтр. Тыя ж, хто завітаў на свята з нейкімі пытаннямі, маглі атрымаць вычэрпныя, цікавыя адказы.

(Ул. інф.)

## Стоп-факт

### ДАНІЯ Ў МІНСКУ

3–4 лістапада Гандлёва-прамысловая палата Рэспублікі Беларусь, сумесна з Федэрацыяй "Дацкая прамысловасць" праводзілі Дні Даніі ў Мінску. З Даніі ў беларускую сталіцу завіталі два буйнейшыя банкі, больш чым 30 фірм, якія прапанавалі сваё супрацоўніцтва ў галіне сельскагаспадарчай, харчовай і перапрацоўчай прамысловасці, энергетыкі, сувязі і іншых галін эканомікі.

Як адзначылі прадстаўнікі замежнай дэлегацыі, адна з галоўных задач з іх боку – наладжванне непасрэдных сувязей з нашай рэспублікай.

### МВФ: АД СЛОЎ — ДА СПРАВЫ

Трэцяга лістапада ў Мінск прыбыла місія Міжнароднага валютнага фонду. У час яе работы будзе ўзгоднены мемарандум аб эканамічнай палітыцы, пасля падпісання якога Беларусь можа разлічваць на дапамогу МВФ у перабудове эканомікі.

### ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНАЙ КУЛЬТУРЫ

Першага лістапада пачаўся другі міжнародны фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы", які праходзіць у дзвюх залах Мінскай філармоніі і скончыцца 10 лістапада. Мэтай гэтага фестывалю з'явілася адкрыццё невядомых фактаў і падзей музычнай культуры Беларусі.

Старонку вядзе Франц ЛЯВІЦКІ, тэл. 32-13-04

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з дастаўчнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

## ЗАЯВА

### Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь

29 кастрычніка 1992 года Вярхоўным Саветам Беларусі прынята беспрэцэдэнтная пастанова, паводле якой насуперак Закону "Аб народным галасаванні (рэферэндуме)" праігнаравана ініцыятыва больш як 442 тысячаў грамадзянаў нашай дзяржавы аб правядзенні рэферэндуму пра роспуск выбранага за часы непадзельнага кіравання КПБ—КПСС парламента і правядзеньні датэрміновых выбараў у новую найвышэйшую ўстанову дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь.

Вярхоўны Савет гэтым сваім рашэньнем паказаў сваю адкрытую пагарду да рэалізацыі неад'емнага права народа на волевыяўленьне, парушыўшы тым самым артыкулы 2 і 5 дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, артыкулы 6 і 14 Закона "Аб народным галасаваньні (рэферэндуме)" Рэспублікі Беларусь.

Цэнтральная камісія па рэферэндуму не адзначыла ніякіх парушэньняў Закона з боку Ініцыятыўнай групы рэферэндуму, якія давалі б падставу адхіліць правядзеньне рэферэндуму, аб чым сьведчыць Заключэньне Камісіі. Падпісныя лісты, у якіх Цэнтральная камісія па рэферэндуму выявіла недакладнасьці ў афармленьні, былі аднятыя ад агульнай колькасьці падпісных лістоў. Усе астатнія, правераныя Камісіяй падпісныя лісты, былі прызнаныя сапраўднымі і склалі 384318 падпісаў грамадзянаў, што значна перавышае колькасьць, неабходную для правядзеньня рэферэндуму. На аснове гэтага і было прынятае Заключэньне Цэнтральнай Камісіі па рэферэндуму і 12 мая 1992 г. перададзена ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі. Прэзідыум, ігнаруючы законную волю грамадзянаў, выяўленую ў падпісных лістах, на працягу паўгода не зьбіраў Сесію Вярхоўнага Савета і не займаўся пытаньнем пра рэферэндум, штучна адцягваў абавязковае вырашэньне пытаньня.

29 кастрычніка 10-я сесія Вярхоўнага Савета Беларусі з падачы Камісіі па заканадаўству сфальсіфікавала вывады Заключэньня Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму і прадставіла як грубыя парушэньні Закона. Але такія парушэньні Закона, калі б яны былі, мог устанавіць толькі суд. У дадзеным выпадку суду падлягае парламент, які прыняў антызаконную пастанову на падставе ім жа сфальсіфікаваных аргументаў. Аднак у нашай дзяржаве няма Канстытуцыйнага суда.

У сувязі з вышэйсказаным мы, дэпутаты Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце, заяўляем, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 12-га скліканьня, адхіліўшы законную ініцыятыву сотняў тысяч грамадзянаў Беларусі аб правядзеньні рэферэндуму пра нечарговыя выбары і роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета, стаў на шлях адкрытага парушэньня законаў, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і тым самым фактычна згубіў сваю легітымнасьць. Дзеяньні Вярхоўнага Савета аб недапушчэньні рэферэндуму могуць быць расцэненыя толькі як утрыманьне ўлады незаконнымі сродкамі.

На жаль; кіруючая большасць у Вярхоўным Савеце Беларусі, якая так нічога і не зрабіла для паляпшэньня жыцьця народа, засьведчыла на гэтай Сесіі выразныя тэндэнцыі, накіраваныя супраць існаваньня беларускай дзяржавы і беларускай нацыі. Гэта выявілася ў непрыняцьці новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у тармажэньні эканамічных пераўтварэньняў, у непавазе да дзяржаўнай беларускай мовы і сімвалаў беларускай дзяржавы, у імкненьні ўцягнуць нейтральную Беларусь у ваенны блок з Расеяй, у спробах захаваць адміністрацыйна-сацыялістычны лад і аднавіць КПБ—КПСС. Антыдзяржаўная палітыка ёсьць палітыка антынародная, бо, не маючы сваёй дзяржавы, народ не можа распараджацца вынікам сваёй працы.

Ажыцьцяўленьню рэакцыйных задумаў наменклатуры перашкаджае дзейнасьць аб'яднанай Апазіцыі Народнага Фронту і дэмакратычных партыяў. Мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь, усьведамляем свае абавязкі перад народам у цяжкі для нашай Бацькаўшчыны час і, нягледзячы ні на што, застаючыся ў жорсткай парламенцкай Апазіцыі, будзем змагацца за аднаўленьне законнасьці, за інтарэсы нашых выбаршчыкаў, нашай Беларусі і яе грамадзянаў.

Мы застаемся паўнамоцнымі прадстаўнікамі нашых выбаршчыкаў, але не лічым для сябе абавязковым прымаць удзел у галасаваньні ў гэтым Вярхоўным Савеце.

Неабходнасьць рэферэндуму, законна засьведчаная воляй 442 тысячаў грамадзянаў Беларусі, не зьнятая з парадку дня. Дэпутаты Апазіцыі БНФ будуць дамагацца адмены антызаконнага рашэньня Вярхоўнага Савета ўсімі даступнымі канстытуцыйнымі сродкамі. Рэферэндум павінен адбыцца.

Мы, дэпутаты апазіцыйнай меншасьці, усе, хто 29-га кастрычніка прагаласаваў за рэферэндум, за выкананьне Канстытуцыі і Закона, застаемся легітымнай часткай гэтага Вярхоўнага Савета, каб не дазволіць яго кіруючай большасьці беспярашкодна парушаць правы чалавека, зьневажаць духоўныя і матэрыяльныя інтарэсы народа, дыскрэдытаваць беларускую дзяржаву, каб дамагчыся датэрміновага спыненьня яго паўнамоцтваў на аснове Закона.

Мы верым у шчаслівую будучыню Беларусі, вольнае і заможнае жыцьцё народа і, адстойваючы законныя інтарэсы і правы людзей, спадзяёмся на іх разуменьне нашай апазіцыі, падтрымку і арганізаванасьць.

Дэпутаты Апазіцыі БНФ:

З. Пазьняк, В. Голубеў, Г. Сямдзянава, С. Навумчык, Л.Здановіч, Г. Грушавы, С.Антончык, У.Заблоцкі, Ю.Беленькі, Л.Тарасенка, С.Папкоў, Я.Новікаў, І.Германчук, Л.Баршчэўскі, Л.Дзейка, П.Холад, А.Шут, А.Трусаў, В.Какоўка, М.Аксаміт, Я.Глушкевіч, М.Крыжаноўскі, С.Бабачонак, М.Маркевіч, А.Паруль, І.Пырх, Я.Бядулін, В.Малашка, В.Аляксееў, М.Мацюшонак, С.Слабчанка, Я.Цумараў.

ЦК Саюза моладзі Беларусі глыбока смуткуе з нагоды заўчаснай смерці выдатнага беларускага навукоўца, знакамітага дзеяча нацыянальнага Адраджэння, вядомага грамадска-палітычнага дзеяча, Старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, доктара гістарычных навук Міхаіла Аляксандравіча ТКАЧОВА і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка. Светлая памяць пра Міхаіла Аляксандравіча Ткачова назаўжды застанецца ў сэрцах беларускай моладзі.

Рэдакцыя "Чырвонай змены" глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці адданага сына Бацькаўшчыны Міхася ТКАЧОВА і выказвае спачуванне родным, блізкім, сябрам, усім, хто ведаў гэтага таленавітага, добрага, шчырага чалавека.

# ЮШКА З ВАН ГОГА

## ЦІ ПРЫБЫТКОВА ПІСАЦЬ КАРЦІНЫ?

"Мастак, будзь багатым!" З такім жа поспехам Сальвадор Далі мог параіць:"Чалавек, будзь шчаслівым!" Ян ван Эйк, які здолеў на працягу пяці стагоддзяў абуджаць у людзей настальгію па жорсткіх часах Карла Смелага, меў мураваны дом, шмат прыхільнікаў і дастаткова грошай. Яго не менш вядомы і не менш таленавіты суайчыннік Ван-Гог за ўсё сваё жыццё здолеў прадаць толькі адну карціну, ды і то па "дэмпінгаваму" кошту. Паводле сведчанняў відавочцаў, фінансавы поспех мастака падобны гарадскому грамадскаму транспарту: яго немагчыма прадказаць. Адсюль і бяруць свой пачатак казкі пра вялікія заробкі мастакоў.

На тэрыторыі былога СССР міфы аб прапахлых фарбамі "крэзах" паступова здаюць свае пазіцыі. Можа таму, што багатых мастакоў стала менш. Можа таму што міфатворцы заняліся трэцім саслоўем. Складваецца ўражанне, што ў камандным заліку былыя савецкія мастакі вайну з грашыма прайгралі. Хаця карціны па-ранейшаму крадуць, што сведчыць аб высокім узроўні сённяшніх майстроў і нязменнай цікавасці да творчасці майстроў мінулага. Лёсу часам бывае патрэбна трымаць мастака да апошніх яго дзён у чорным целе і толькі потым пачаставаць вялікім трыумфам, калі труну трыумфатара ўжо апускаюць у зямлю.

Бацька Эдуарда быў першым у родзе Баграндавых мастаком. З траіх яго дзяцей адзін толькі Эдуард абраў прафесію бацькі. Хаця выбар гэты зрабіў, калі меў у кішэні атэстат сталасці і дыплом аб сканчэнні музычнай школы. Потым быў яшчэ гістфак універсітэта, які ён кінуў, калі той стаў перашкаджаць заняткам у мастацкай студыі. У 22 гады Эдуард паступіў у мастацкае вучылішча. Потым на працягу трох гадоў афармляў цырульні фірмы "Усход". З 1987 года на вольным хлебе.

### АРТ-Н-БІЗНЕС

**– Як ты зарабляеш сабе на жыццё?**

— Частку карцін раблю на продаж. Пейзажы, нацюрморты... Штосьці такое, што было б даступна па кошту. Творы, у якія ўкладзена шмат маёй душы, безумоўна, не прадаю. Тут такі твор прадаць немагчыма. Яго сабекошт здольныя вярнуць толькі буйныя калекцыянеры і мецэнаты. А пейзажы... Я імі проста на хлеб зарабляю.

**– Які сярэдні кошт "хлебных" работ?**

— Ён мяняецца разам з узроўнем жыцця. Напрыканцы 70-х, на пачатку 80-х гадоў можна было набыць нядрэнную "прыкладную" працу за 150—200 рублёў. Як правіла, кошт не перавышае сумы сярэдняй зарплаты.

**– Значыць, сёння гэта – трыпяць тысяч?**

— Дзесьці так. Праўда, калі аўтар мае імя, выстаўляецца на Захадзе, то цэны не апускаюцца ніжэй за тыя, якія ўказаны ў каталогах замежных выстаў. Сярэдні эквівалент у рублях дасягае 150—200 тысяч.

**– Якія суадносіны кошту матэрыялаў і ўласнай працы мастака, што ўкладзена ў карціну?**

— Яны вельмі няўстойлівыя. Толькі рамка можа каштаваць і 30 рублёў, і 2 тысячы.

**– Твая праца акупляецца?**

— З цяжкасцю. З красавіка мінулага года, калі пачаўся працэс гіперінфляцыі, колькасць пакупнікоў рэзка скарацілася. Людзям не да жывапісу.

**– Твае працы выстаўляліся ў Мастацкім салоне?**

— Была справа. Прыкладна ў 86-м годзе.

**– Тады зарабляць удавалася?**

— Так, усе палотны амаль адразу раскупляліся.

### ВЕСЛЯРЫ НА ГАЛЕРАХ

**– Колькі разоў табе даводзілася ўдзельнічаць у выставах?**

— У агульнай колькасці чатыры разы.

**– Ад выстаў, у прынцыпе, мяркуецца якісьці прыбытак для мастака?**

— Прыбытак бывае толькі ў тым выпадку, калі палотны прадаюцца ў вялікай колькасці. На маёй апошняй выставе 95 працэнтаў работ не было прызначана на продаж. Білеты прыбытку не даюць. Вялікія сумы ідуць на арэнду памяшкання: у месяц каля 150 тысяч.



**– Але ж ёсць яшчэ галерэі, якія маюць спецыяльна празначаныя для гэтага памяшканні?**

— Галерэйшчыкі часта ставяць умовы, згодна з якімі твае працы павінны быць прададзены вельмі танна. Яны імкнуцца атрымаць ад мастака максімум прыбытку.

**– А замежныя галерэі?**

— Адна з галерэй Заходняй Англіі заявіла "ангажэмент" на маю выставу. Але пры гэтым ім неабходны гарантыі, што ўсе работы будуць прададзены. А якія тут могуць быць гарантыі? Яшчэ цікавей тое, што пры перавозцы карцін за мяжу неабходна заплаціць 100-працэнтны падатак ад іх кошту. Пасля таго, як пераедзеш мяжу, бярэцца яшчэ якісьці працэнт у валюце.

**– А хто ацэньвае кошт?**

— Міністэрства культуры. Там могуць узяць любую лічбу са столі: грошы ж ідуць ім.

**– Галерэя, якая прапанавала табе "ангажэмент", – прыватная?**

— Так. Дзяржаўных галерэй у Англіі мала. А прыватнікі, як разумееш, зацікаўлены ў першую чаргу ў продажы работ.

**– Значыць, сітуацыя такая ж, як і ў нас?**

— Толькі цэны іншыя. Пачатковы кошт работы мастака, невядомага пакуль краіне, вагаецца ад 500 да 1,5 тысячы даляраў. Гэта мінімум. Тое, што танней, ужо не лічыцца мастацтвам.

Быць мастаком добра. А Глазуновым — лепш.

**– Сёння мастакі – гэта людзі вялікага дастатку?**

— Тыя, хто працуе на продаж, — так. Тыя, хто займаецца пошукамі, яго не маюць.

**– Калісьці праца мастака была даволі прыбытковая...**

— Сёння няма наглядный агітацыі, няма ідэалагічнай прапаганды. Вялікія грошы рабіліся акурат на гэтым.

**– Але ў той час у мастака была магчымасць папрацаваць напярэдадні Першамая над партрэтам правадыра, а потым заможна жыць і спакойна "шукаць" да наступнага свята...**

— Папрацаваць так была магчымасць. А па-сапраўднаму тварыць пасля гэтага — наўрад ці. Пераступаючы гэтую мяжу, мастак уцягваецца ў пагоню за рублём, дзе звычайна і заканчваецца як творца. Шмат хто з маіх аднакурснікаў у свой час ударыўся ў манументальнае мастацтва, бо не бачылі сэнсу займацца тым, што не прыносіць вялікіх дывідэнтаў. Хтосьці зараз рэзка змяніў курс — пачаў абразы штампаваць. На гэтым таксама можна няблага зарабіць.

Гутарыў
Аляксандр КІШКІН.

---

*Сакрэты дзелавога поспеху*

## ПАРАДЫ ПАЧЫНАЮЧЫМ ІНВЕСТАРАМ

1. Плануйце свае інвестыцыйныя праграмы, каб вашы капіталаўкладанні не былі нязгэўнымі.

2. Укладвайце ў акцыі толькі "лішнія" грошы.

3. Ніколі не інвесціруйце занятыя сродкі.

4. Не ўкладвайце грошы пад уціскам альбо па парадзе сяброў ці родных, гэта можа пагоршыць вашы адносіны з імі.



5. Перад тым, як набыць (прадаць) акцыі, пракансультуйцеся ў трох надзейных брокераў (экспертаў). Не рабіце нічога на аснове канфідэнцыяльнай, неправеранай інфармацыі.

6. Рэгулярна правярайце фінансавыя справаздачы кампаніі, акцыі якой маеце. Параўноўвайце іх з вынікамі ў дадзенай галіне ўвогуле.

7. Укладвайце грошы ў некалькі кампаній у розных сферах дзейнасці.

8. Не адмаўляйцеся адразу ад набыцця акцый з-за невялікіх дывідэндаў. Галоўнае – доўгатэрміновасць і стабільнасць прыбыткаў.

9. Больш надзейна купляць аб'яўленыя (тыя, што "прайшлі" праз біржу) акцыі.

10. Не ўчыняйце ажыятажу вакол акцый.

11. Прагдядвайце рэгулярна ўсе свае акцыі і прадавайце тыя, што здаюцца неперспектыўнымі.

12. Рэгулярна чытайце надзейную фінансавую інфармацыю.

13. Лепш набываць акцыі вядучых, вядомых кампаній, але толькі тады, калі іх кошт прымальны.

14. Не купляйце акцыі толькі таму, што ў вас выпадкова ўзніклі свабодныя сродкі. Чакайце найбольш спрыяльнага моманту.

15. Выдаткі ад непрадуманых рашэнняў не зменшацца, калі працягваць укладваць грошы згодна з гэтымі рашэннямі.

16. Лічыце сумарныя прыбыткі і выдаткі і вызначайце ваш фінансавы стан на працягу года. Гэта трэба, каб беспадстаўна не хвалявацца пры часовых выдатках. Калі рашэнне было правільным, укладзеныя грошы дадуць дывідэнд.

17. Калі вы схільныя ўкласці грошы ў спекуляцыйныя здзелкі, будзьце дысцыплінаваны і ўкладзіце не больш за 20 працэнтаў вашых сродкаў і настройцеся на іх страту. Калі вы не можаце дазволіць сабе падобных страт, не займайцеся падобнымі здзелкамі.

***Ад рэдакцыі:*** *Зразумела, вышэйпададзеныя парады грунтуюцца на заходнім вопыце і накіраваны да заходніх інвестараў. Сітуацыя ў нашай краіне досыць спецыфічная. Тым не менш, задумацца над чужым вопытам не пашкодзіць.*

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

# ЗАГАДКА КЛЮЧНІЦЫ МАЛУШЫ

Як часта гісторыя жыцця людзей, што сапраўды існавалі, аказваецца значна больш цікавай, чым надуманыя прыгоды герояў авантурна-прыгодніцкіх раманаў! Нават самае геніяльнае пяро не змагло б, пэўна, сачыніць нічога больш захапляючага, чым гісторыя палескай прыгажуні Малушы, якая жыла адзінаццаць стагоддзяў назад побач з такімі вядомымі асобамі, як княгіня Вольга, князь Святаслаў Ігаравіч і ваявода Дабрыня. У летапісах жанчына гэтая ўспамінаецца толькі ўскосна, у той меры, у якой яе жыццё было пераплецена з жыццём гэтых траіх. Але і так дастаткова, каб мы даведаліся пра адну з самых прыгожых гісторый кахання і барацьбы за ўласную годнасць.

Гэтая гісторыя ўдвая павінна быць цікавай для беларусаў. Бо непасрэдна датычыць нашай сівой даўніны.

Бліжэйшымі суседзямі племені палян, якія ў VI–VII ст.ст. рассяліліся ў басейне Днепра, былі драўляне. Яны жылі на Паўночным Захадзе, сярод густых лясоў. Украінскі гісторык Міхайла Грушэўскі ў канцы мінулага стагоддзя пісаў: "Обітателі Древлянской земли должны былі уступать въ культурѣ своім восточным сосѣдямъ. Условія мѣстності располагалі населеніе более къ охотѣ і пчеловодству, чѣмъ къ земледѣлію. За то лѣс служілъ прекрасною защітою отъ кочевніковъ; онъ для послѣднiхъ составлялъ всегда непреоборімую преграду".



Малуша. Малюнак А. Зарха.



Святаслаў. Фрагмент помніка "Тысячагоддзе Русі" у Ноўгарадзе.

З гэтых часін нам вядомы толькі два гарады на тэрыторыі старажытнай драўлянскай зямлі – Іскарасцень і Оўруч. Ды і тое, апошні ўжо ўзнік пасля далучэння драўлянскай тэрыторыі да Кіеўскага Княства. У часы ж, пра якія пойдзе гутарка, яго яшчэ не існавала. Затое Іскарасцень быў сталіцай. Там жыў князь. Прыпяць служыла драўлянам асноўным водным шляхам. Яна ж з'яўлялася своеасаблівай мяжой: драўляне жылі ў асноўным на поўдзень ад гэтай ракі. На поўнач ад Прыпяці рассяліліся дрыгавічы. Яны разам з крывічамі і радзімічамі афіцыйна ва ўсіх гістарычных крыніцах праходзяць як продкі сучасных беларусаў. Драўляне не ўключаны ў гэты спіс, што можа выклікаць толькі непаразуменне.

Расійскі гісторык другой паловы XIX ст. Н.Барсаў у сваёй "Геаграфіі Начальной лѣтопісі" прыводзіць цікавыя звесткі, якія маглі быць сцвярджэннем таго, што драўляне ўнеслі сваю лепту ў фарміраванне як украінскай, так і беларускай нацыі. Гістарычна можна прасачыць, як драўлянская зямля ўваходзіла ў склад то Кіеўскага княства, то Турава-Пінскага. Ды і зараз тэрыторыя, дзе жылі драўляне, падзелена паміж Беларуссю і Украінай. Значыць, кожная з гэтых краін мае права лічыць гісторыю драўлян сваёй уласнай. Беларусь нават у большай ступені. Бо ў час княгіні Вольгі і аўтаномнага існавання драўлян прадстаўнікі гэтага славянскага племені этнічна мелі значна больш сувязяў з дрыгавічамі, чым з палянамі.

Галоўным сярод драўлян тады быў князь Мал, мужны воі, адважны чалавек. Ён меў дваіх дзяцей: сына Дабрыню, гледзячы па ўсяму, старэйшага, і дачку Малушу, названую гэтак у гонар бацькі.

Дзеці былі яшчэ вельмі малыя, калі адбыліся падзеі, якія так моцна паўплывалі на іх лёс. Па загаду Мала быў забіты кіеўскі князь Ігар, які выклікаў вялікае незадавальненне ў драўлян сваёй прагнасцю пры зборы ў гэтых мясцінах даніны: атрымаўшы аднойчы яе, ён з паўдарогі да Кіева вярнуўся, каб сабраць даніну другі раз. Прагнага Ігара прывязалі нагамі да двух сагнутых да зямлі дрэў. І калі іх адпусцілі, цела князя было разарвана надвая.

З пункту гледжання драўлян, дзеянні Мала былі справядлівымі, бо абараняў ён інтарэсы свайго народа. Але пасля князь дапусціў сур'ёзную памылку, якая каштавала жыцця лепшым з яго падданых.

Мал, на той час удавец, вырашыў ажаніцца з удавой Ігара, маладзенькай княгіняй Вольгай, і такім чынам "прыбраць да рук" Кіеў.

Але Вольга аказалася не такой ужо безабароннай, як здавалася. Яна жорстка расправілася са сватамі, а потым павяла княжацкую дружыну на Іскарасцень. У бойцы драўляне былі разбіты. Драўлянскі стольны горад спалены. Жыхары яго часткова загінулі, часткова былі ўзяты ў палон. Князь Мал разам з іншымі найбольш самавітымі іскарасценцамі быў кінуты ў поруб, дзе і скончыў сваё жыццё. Летапісы захавалі для нас вобраз Вольгі-фурыі, якая вынаходзіла бязмежную колькасць вытанчаных катаванняў для сваіх ворагаў. Але сучасныя гісторыкі не надаюць вялікай веры гэтым радкам, справядліва лічачы іх больш фальклорнымі, чым гістарычнымі. Доказам вышэйсказанага можа быць гістарычны факт. Калі да маладой удавы Ігара воіны прывялі дзяцей яе ворага Мала, яна выказала жаданне ўзяць іх да сябе на выхаванне. Значыць, Вольга зусім не была забойцай-садысткай. І помсціла за гібель свайго мужа толькі таму, што такім быў яе абавязак. Можна з вялікай верагоднасцю сцвярджаць, што калі б быў у Ігара дарослы сын, то не Вольга вяла б войскі на Іскарасцень. Святаслаў жа, сын Ігара і Вольгі, быў па тых часах яшчэ хлопчыкам. Сучасны ўкраінскі даследчык В.М.Рычка ўслед за вучоным М.Ю.Брайчэўскім, лічыць, што ў год Вользінай помсты, 946, яму было 8–10 гадоў. Іншыя гісторыкі, ведаючы дакладна гады праўлення Кіевам Вольгай у якасці рэгенткі пры непаўналетнім сыне – 945–957 гг., – вызначаюць, што Святаслаў быў чатырохгадовым. Гэта падобна на праўду. Летапіс апавядае, як маленькі сірата-княжыч па волі маці даў знак пачынаць бойку пад Іскарасценем. Ён кінуў у бок ворагаў уручанае яму Вольгай кап'ё. Сілы, праўда, у хлопчыка было яшчэ вельмі мала, і таму кап'ё, праляцеўшы між вушамі яго каня, ударыла таму па назе. Убачыўшы гэта, ваявода Свенельд гукнуў: "Князь пачаў ужо! Ударым, воі, услед за князем!"

Сын Мала, Дабрыня, быў ненамнога старэйшы за Святаслава, а Малуша, верагодна, адных з ім гадоў. Убачыўшы ні ў чым не вінаватых дзяцей, Вольга, як і любая жанчына-маці, не магла не пашкадаваць іх. Так дзеці Мала трапілі з палаючага Іскарасценя ў пышны церам кіеўскай княгіні.

На якім становішчы жылі яны там? Гісторыкі спрачаюцца наконт гэтага. Адным хочацца бачыць усё толькі ў ружовых танах, другія шукаюць доказы таго, што Вольга рабіла ўсё магчымае, каб выхаваць з дзяцей уласнага ворага паслухмяных рабоў. З абедзвюма тэорыямі можна спрачацца. Вядома, што з часам Дабрыня стаў прыбліжаным дружыннікам Святаслава, а Малуша – ключніцай (г.зн. эканомкай) самой Вольгі. Пасады, як бачым, не рабскія. Але, калі разабрацца, усё ж не зусім падыходзячыя для дзяцей князя.

Мы можам меркаваць, што да дзяцей у цераме Вольгі адносіліся няблага. Яны выхоўваліся побач з маленькім князем, пэўна, прымалі ўдзел у яго дзіцячых гульнях. Паміж Святаславам і Дабрыням завязалася шчырае сяброўства. А ў адзін цудоўны дзень юны князь убачыў у Малушы ўжо не нязграбнае дзяўчо, а прывабную маладую жанчыну.

Яшчэ да гэтага, заўважыўшы практычную, гаспадарлівую натуру дзяўчыны, Вольга перадае ў яе распараджэнне гаспадарчыя справы па цераму, робіць яе ключніцай.

Матэрыялы археалагічных даследаванняў старажытнага Кіева даюць нам магчымасць уявіць, якім было жытло княгіні Вольгі. Пышна ўпрыгожаны мармуровымі калонамі, аздоблены фрэскамі і малахітавымі пліткамі церам быў вельмі падобны на залатую клетку, у якой трымалі лясную птушку, народжаную для таго, каб спяваць на волі. Такой птушкай была юная Малуша, жывая цацка сваёй гаспадыні. Але ці памятала яна іншае жыццё? Пэўна, не. Затое нічога не забыў Дабрыня. Ён, трэба думаць, па-юнацку балюча перажываў сваё становішча і немагчымасць адпомсціць за смерць бацькі. Іскарасцень быў зруйнаваны настолькі, што не было нават спадзявання калі-небудзь аднавіць яго. Вольга, не прымаючы дарэмна граху на душу, усё зрабіла так, каб драўлянская княжацкая дынастыя не змагла ўжо адрадзіцца. Але заўважыўшы неўзабаве цікаўнасць Святаслава да сястры, Дабрыня зразумеў, што не ўсё яшчэ страчана. Бо калі б удалося ажаніць князя з Малушай, то іх спадчыннік быў бы прамым нашчадкам Мала і яго зямлі. Дабрыня падзяліўся думкамі з сястрой і, трэба думаць, яна падтрымала яго план, бо ўжо кахала прыгожага, мужнага сына Вольгі.

Святаслаў жа рос не пестуном, а сапраўдным воінам. Яго мала цікавілі хатнія справы. Ён аддаваў перавагу чыста мужчынскім заняткам. Летапісцы расказваюць пра тое, як дзяліў ён усе цяжкасці паходнага жыцця са сваімі дружыннікамі, якім быў прыстасаваным да прыродных умоў і нястомным у час боек. Жанчыны і ў юнацтве, і пасля цікавілі Святаслава даволі мала. Але гэта не датычыла Малушы, каханню да якой ён застаўся верным на ўсё жыццё. Чым жа ўдалося прываражыць палескай прыгажуні гэтага суровага воіна? Для нас гэта застаецца таямніцай, бо, акрамя скупых летапісных радкоў, ні па чым не можам мы зараз аднавіць для сябе гісторыю гэтага кахання.

Канешне, Святаслаў, як і любы мужчына, мог цаніць прыгажосць не толькі зброі ды коней. Такі вывад можна зрабіць па пэўнаму запісу з летапісу. У адным са сваіх паходаў Святаслаў прыдбаў юную грэкіню-манахіню незвычайнай прыгажосці. Ён вязе яе, як самы каштоўны падарунак, у Кіеў свайму старэйшаму сыну.

Але, пэўна, не толькі прыгажосць Малушы прыцягнула да яе Святаслава. Уяўляецца, што галоўным тут быў моцны, рашучы характар сястры Дабрыні. Менавіта гэтыя рысы больш за ўсё паважаў у людзях малады кіеўскі князь.

Вольга не магла, канешне, не заўважыць гэткай прыхільнасці свайго сына да ключніцы. Прымаючы да ўвагі яе характар, можна меркаваць, што такі шлюб не мог падабацца княгіні. Таму Вольга спяшаецца найхутчэй ажаніць сына, пакуль яна яшчэ рэгентка пры ім.

Аўтары кнігі "Русская история" І.А.Заічкін і І.Н.Пачкаеў называюць імя нявесты, абранай Вольгай, – княжна Ільдзіка, дачка венгерскага князя Такшоня (рускае імя Прадслава).

Гэтыя ж аўтары, насуперак іншым, сцвярджаюць, што яшчэ да гэтай жаніцьбы ў Святаслава і Малушы нарадзіўся сын Уладзімір. Але, мяркуючы па ўсім, яны памыляюцца. Бо цэлы шэраг іншых крыніц сведчыць на карысць таго, што Уладзімір нарадзіўся значна пазней за іншых Святаслававых сыноў. І, значыць, нягледзячы на нездаволенасць Вольгі, Святаслаў, як толькі набыў поўную ўладу, зноў наблізіў да сябе Малушу. Каб не дражніць дарэмна маці, ён не ўзаконіў свае адносіны з каханай (прыгадаем, што ў дахрысціянскі час князь мог мець некалькі жонак). І таму сын Малушы і Святаслава, Уладзімір, нарадзіўся пазашлюбным. Тым не менш, Святаслаў афіцыйна прызнаў яго і даверыў выхаванне маленькага Уладзіміра яго дзядзьку Дабрыні.

І.А.Заічкін і І.Н.Пачкаеў сцвярджаюць, што асцярожнасць Святаслава ў яго адносінах да Малушы не дапамагла маладой жанчыне. Вольга быццам бы выслала яе з Кіева ў далёкае сяло Будуцін на рацэ Рось. Але падобныя меркаванні, на жаль, не маюць ніякіх пацвярджэнняў. Летапіс маўчыць наконт гэтага.

Украінскія ж даследчыкі У.Крып'якевіч, М.Грушніцкі і іншыя, наадварот, даказваюць, што Вольгу не толькі задаволіла становішча спраў, але і ў далейшым яна яшчэ больш прыблізіла да сябе Малушу, якая з часам стала першай дарадчыцай і любімай сяброўкай старой княгіні.

Дзве палярныя гіпотэзы. Якой жа верыць? Возьмем за апору так званую "залатую сярэдзіну". Мяркуючы па ўсім, Вольгу сапраўды непакоіла толькі магчымасць таго, што Малуша стане княгіняй. Прычыніць зло каханай Святаслава пасля таго ўжо, як ён стаў паўналетнім, яна не магла – сын не даў бы пакрыўдзіць Малушу. Але і асаблівай прыхільнасці да сваёй ключніцы ў Вольгі ўзнікнуць проста так не магло. Значыць, хутчэй за ўсё дзякуючы маўклівай згодзе паміж маці і сынам Малуша засталася ў сваім ранейшым становішчы.

Тым не менш, Дабрыні і Малушы ўдалася першая частка іх плана: нашчадак Мала мог зараз прэтэндаваць на княства. І цяпер трэба было падрыхтаваць яму княства гэтае. Паводле разумення Дабрыні, Уладзімір павінен быў атрымаць пад сваю ўладу драўлянскія землі дзеда.

Пачатак выканання другой часткі Дабрыневага плана можна ўбачыць у тым, што неўзабаве Святаслаў, які звычайна вельмі мала цікавіўся справамі свайго княства, з большай ахвотай прысвячаючы сябе заморскім паходам, пачынае будаўніцтва ў драўлянскай зямлі горада Оўруча. Паводле яго планаў, у далейшым Оўруч павінен быў выконваць тыя ж функцыі, якія выконваў знішчаны Вольгай Іскарасцень.

Тым не менш, не Уладзіміру давялося княжыць у Оўручы. Гэтаму паспрыялі наўгародцы, людзі хітрыя і разважлівыя.

Ноўгарад, паводле сведчання расійскага гісторыка М.Хітрова, ніколі не мог існаваць без князя, выбар якога, аднак, цалкам залежаў ад самога Ноўгарада. Навязаць князя супраць волі народа было нельга, інакш у Ноўгарадзе не прымуць яго. Але калі князь, абраны і прыняты Ноўгарадам, палюбіцца яму, зможа ўжыцца з наўгародскімі парадкамі, ён смела можа разлічваць на вернасць і адданасць гараджан. "Камо, княже, очіма, позріши ты, тамо мы головамі своімі вертеть!" – гаварылі яны князю, які жыў з імі ў згодзе. Бяда была ў тым, што ўжыцца князю з наўгародцамі было вельмі цяжка.

У адзін цудоўны дзень дэлегацыя наўгародцаў рушыла да Святаслава ў Кіеў патрабаваць сабе князя. Ведаючы іх "дрэнны характар", Святаслаў здзівіўся. "Ды хто ж да вас пойдзе?" Яшчэ большае здзіўленне выклікаў адказ: Ноўгарад жадае князем малалетняга Уладзіміра.

Параіўшыся з Дабрыням, Святаслаў вырашыў, урэшце, што для пачатку гэта зусім нядрэнная прапанова для княжыча. Так маленькі Уладзімір стаў Наўгародскім князем. І, здаецца, асаблівых канфліктаў з падданымі ў яго не было. Кіраваць наўгародцамі дапамагалі яму разумныя парады дзядзькі, які паехаў у Ноўгарад разам са сваім пляменнікам-выхаванцам, каб з часам стаць яго правай рукой і апорай, яго ваяводам.

Мэтанакіраванаму Дабрыні ўдалося выхаваць з сына сваёй сястры моцнага князя. Не без Дабрыневай парады, пэўна, Уладзімір ажаніўся ў шаснаццаць гадоў са скандынаўкай Аловай. Гэта быў выгадны шлюб, бо пасля яго Уладзімір змог разлічваць на дапамогу скандынаваў. Дабрыня ж быў і натхніцелем Уладзіміра ў барацьбе за кіеўскі прастол, які пасля гібелі Святаслава перайшоў да яго старэйшага сына Яраполка. Яшчэ адзін прэтэндэнт, сярэдні Святаславаў сын Алег (дарэчы, атрымаўшы Оўруч), быў забіты Яраполкам. Зразумеўшы, што з гэтай смерцю шанцы Уладзіміра ўзраслі, Дабрыня раіць яму яшчэ адзін шлюб, з дачкой полацкага князя Рагнедай. А калі задума не ўдаецца, вядзе разам са сваім выхаванцам змешаныя войскі наўгародцаў і варагаў на Кіеў.

Так Дабрыня дапамагае Уладзіміру стаць вялікім князем Кіеўскім, і гэтым вяртае роду Мала яго славу. Ці дажыла да гэтага Малуша? Звесткі аб ёй мы страчваем яшчэ да прызыву Уладзіміра наўгародцамі.

"Аповесць мінулых гадоў" прыгадвае, што пад час сватаўства Уладзіміра да Рагнеды ён атрымаў ад мяркуемай нявесты страшэнную абразу. Сынам рабыні назвала Уладзіміра Рагнеда. За гэтыя словы быў спалены Полацк і забіта ўся княжацкая сям'я. За іх давялося расплачвацца ўсім сваім жыццём Рагнедзе. Такая жорсткая адплата не магла б настаць проста за абразу жанчыны жанчынай. Але была б правамоцнай, калі б абразілі памяць аб горача любімым і страчаным чалавеку. Значыць, можна дапусціць, што на той час Малушы ўжо не было ў жывых. Маці, як і бацьку, не давялося дажыць да паўналецця сына. Але смерць яе, у параўнанні з уражлівым канцом Святаслава, была ціхай і непрыкметнай. Летапісец нават не палічыў патрэбным згадаць пра яе.

Завяршаючы аповед пра драўлянскую князёўну Малушу, нельга не прыгадаць гіпотэзу, якая існуе і да гэтага часу паралельна з прыведзенай намі. Некаторыя даследчыкі, напрыклад, Б.Рыбакоў, У.Крып'якевіч, В.Каргалаў, лічаць Малушу не дачкой князя Мала Драўлянскага, а дачкой нейкага Малка Любчаніка.

Яны будуюць свае довады на аснове адной ускоснай фразы з Лаўрэнцьеўскага спіса "Аповесці мінулых гадоў". З аднаго боку, спрачацца з летапісцам – невысакародная справа, а з другога, у такой сітуацыі трэба ўсё ж такі разабрацца. Калі легендарны Нестар, манах, якому прыпісваецца стварэнне "Аповесці мінулых гадоў", меў рацыю сцвярджаць, што паходжанне Малушы – не драўлянскае, то мы маем права сказаць, што Малуша – не княжацкага роду. У іншым выпадку імя яе бацькі было б – Мал Чарнігаўскі. (Любеч уваходзіў у склад гэтага княства.) Малк Любчанін можа быць імем гараджаніна, баярына альбо селяніна. Як жа дачка гэтага чалавека магла трапіць у ключніцы да кіеўскай княгіні? Калі зноў жа ўспомніць выказаную Рагнедай у адносінах да памяці Малушы пагарду, трэба думаць, што "рабыня" Малуша магла быць толькі захопленай у якасці ваеннай здабычы. Але ж нам невядомы на гэты час ніводзін паход кіяўлян супраць чарнігаўцаў. Значыць, версія пра любечскае паходжанне Малушы не мае ніякіх пацвярджэнняў.

З другога боку трэба ўлічыць таксама і той факт, што Нестар, працуючы над сваім творам, выконваў своеасаблівы "сацыяльны заказ" кіеўскіх князёў, якім было пажадана даказаць, што іх паходжанне – самае высакароднае. З гэтай мэтай "Аповесць мінулых гадоў" амаль з першых старонак сваіх пачынае весці "прапалянскую палітыку". Паляне размалёўваюцца Нестарам як рахманыя, набожныя, добрапрыстойныя людзі, якія шануюць законы чалавечай маралі. Іншыя плямёны (у першую чаргу драўляне) паказаны дзікунскімі, адсталымі, варварскімі наўмысна, каб гэтак апраўдаць захоп кіеўскімі князямі іх тэрыторыі.

Але пасля ўсяго гэтага ўжо становіцца палітычна нявыгадным называць маці Уладзіміра драўлянкай. І ёй прыдумваюць больш "прыстойнае" паходжанне.

Тым не менш шэраг даследчыкаў у сваіх работах ужо адкрыта пішуць пра памылку ў кіеўскіх летапісах.

Нам застаецца толькі далучыцца да іх, паўтараючы: маці Уладзіміра Вялікага, у будучым Хрысціцеля Русі, была менавіта драўлянкай, дачкой народа, які ўклаў частку свайго генетычнага фонду і ў сучасных беларусаў.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА.

# РОДНАЕ СЛОВА



*Родны край*

# ЛІСТАПАД

*Апошні месяц восені. І, бадай, самы непрыемны. Дарогі раскіслі ад беспераапынных дажджоў, вясковыя вуліцы патанаюць у гразі. Рэдкае цяпло можа змяніцца мокрым снегам, а ранкамі хрумсціць пад нагамі шкло замёрзлых лужын. Зусім кароткім стаў дзень. Яшчэ зацемна ідуць у школу дзеці і да цямна не паспяваюць зрабіць урокі.*

### 3. Аўторак.

110 гадоў з дня нараджэння Якуба Коласа (сапр. Міцкевіч Канстанцін; 1882—1956), народнага паэта Беларусі.

### 14. Субота.

90 гадоў назад (1902) у Мінску выйшаў першы нумар грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Северо-Западный край". Выходзіла да 8(21).12.1905 г.

### 15. Нядзеля.

80 гадоў з дня нараджэння А.С.Малышкі (1912—1970), украінскага паэта, перакладчыка беларускай паэзіі.

### 16. Панядзелак.

850 гадоў назад (1142) упершыню ў летапісных крыніцах упамінаюцца Гомель і Рагачоў.



### 18. Серада.

90 гадоў з дня нараджэння М.М.Машары (1902—1976), беларускага пісьменніка.

80 гадоў з дня нараджэння (1912) П.Н.Кавалёва, беларускага пісьменніка.

### 25. Серада.

80 гадоў з дня нараджэння Я.М.Замерфельда (1912—1980), беларускага паэта і крытыка.

*Казкі жыцця*

## ЧОРТАЎ КАМЕНЬ

Ніхто не памятае таго часу, калі і як трапіў сюды гэты камень. Самыя старыя людзі расказваюць, што яшчэ іх дзяды і прадзеды помняць яго. І называўся ён Чортаў камень. Чаму далі яму такую назву – не ведаю. Можа за яго бязмерную велічыню, а можа і за тое, што гэты камень многа зла прынёс і прыносіць людзям. Колькі людскіх калёс і восей пабіта і паламана аб камень! Колькі пакалечана рук і ногі А гузоў колькі набілі тут людскія галовы!

Каля каменя ішла дарога. Невядома, чаму людзі выбралі тут сабе дарогу, хто першы праехаў, праклаў тут след і павёў за сабою іншых?

Многа адказаў ёсць на гэта пытанне, многа легенд складзена людзьмі пра Чортаў камень: розум чалавечы не можа заспакоіцца, пакуль не вытлумачыць сабе цёмнага, невядомага, няяснага. Казалі, што камень прынеслі сюды нейкія старцы і налажылі на яго праклён, асудзіўшы яго на доўгія вякі ляжаць на гэтым месцы.

Людзі добра ведалі, колькі зла і няшчасця было ім ад Чортавага каменя, але ніхто не хацеў першы прыкладаць рук, каб скінуць яго. Праўда, на гэта былі важныя прычыны: камень быў надта вялікі – мала чым меншы за добрую хату; другая прычына – не ўсе сыходзіліся на думцы, што камень трэба абавязкова прыбраць. Адны гаварылі, што чапаць камень – грэх; другія казалі, што на камень накладзены праклён і крануць яго боязна – можа здарыцца якое-небудзь няшчасце. Былі і такія людзі, якія проста стаялі за тое, што камень і павінен быць тут, каб людзі вучыліся быць асцярожнымі і разумнымі, каб умелі самі абладзіць сваю бяду, сваё няшчасце, бо каб не было на свеце зла, дык кожны дурань лёгка трапіў бы ў рай.

Прычына трэцяя – ніхто не даваў добрага спосабу, як узяцца за справу.

А часы ішлі. Паміралі адны людзі, на змену ім з'яўляліся другія, трэція і гэтак далей. Змянялася нават само абліччы зямлі: лясы змяняліся палямі, на палях зноў раслі дрэвы; толькі Чортаў камень ляжаў і ляжаў такі ж вялікі, такі ж маўклівы, дзікі, непрытульны, абросшы густым мохам. Аднак доўгія вякі ўсё ж пакідалі і на ім свой след: камень, хоць і мала, асядаў у зямлю. І, казалі, будзе такі час, калі мінецца закляцце, ён сам зніжне з твару зямлі, сыдзе ў яе нетры.

Змяняецца свет, разумнеюць людзі. Цяпер яны многа гавораць пра Чортаў камень, і думкі іх падзяліліся: адны стаяць за тое, каб гэту справу з каменем аддаць на суд часу; другія даводзяць, што лепш адразу пакончыць з ім, парваўшы яго порахам. Чыя тут праўда, няхай мяркуе той, хто пачуе гэту казку.

Якуб КОЛАС.

Якуб КОЛАС

### ВОСЕНЬ

Пуста ў лузе. Толькі стогі
Парыжэўшыя стаяць,
Ды шпакі каля дарогі
Цэлы дзень адно крычаць.
Грэчка зжата. Гола ў полі.
Жыта звезена даўно.
Толькі плаваюць на волі
Кучы хмар, як валакно.
Дождж сее беспрастанку;
Вецер свішча так, як звер...
Колькі лужын каля ганку!
А гразі, гразі цяпер!..
Ссохлі травы, усё павяла.
Слоць, плюхота, холад, цьма.
Эх, скарэй бы закрывала
Зямлю чорную зіма!



## БЕЛАРУСКІЯ ЖАРТЫ

— Суседзе, ці добра б'е твая новая стрэльба?

— Вельмі добра, учора з паліцы звалілася і пяць гаршкоў пабіла.

* * *

— Ведаеш, Янка, я ўчора падстрэліў зайца на дзесяць кілаграмаў...

— А я забіў у нядзелю зайца на цэлы пуд...

Першы паляўнічы пачухаў патыліцу:

— Шкада, што я першы пачаў размову.

* * *

— Ці бывае вам шкада забітых звяроў?

— Вельмі шкада, калі іх забіваю не я, а хтосьці іншы.

* * *

— Як прайшло паляванне?

— Упяцёх аднаго зайца падстрэлілі.

— І як вы яго дзялілі?

— А мы яго не знайшлі.

* * *

—Хадзем, Пятро, на рыбалку!

— Ды я ж не ўмею лавіць рыбу.

— А што там умець? Налівай ды выпівай.

* * *

Мужык кажа да жонкі: — Ведаеш, Тэкля, вельмі нешта добрае я сягонняшняй ноччу прысніў.

Жонка: — Я, пэўна, і здагадалася. Праз сон ты крыкнуў: "Дай, Мойша, яшчэ кварту!"

* * *

— Ці праўда, што Бог забраў у цябе ўжо трэцюю жонку?

— Праўда, браце. А я ўзяў сабе чацвёртую: Бог бярэ — бяру і я!

* * *

Адзін шэры заяц, цішком пад самым носам варты, праскочыў праз граніцу ў Аўстрыю. Сеў, перавёў дух і аглядае новы край. Падскочылі да яго аўстрыяцкія зайцы.

— Чаго ты ўцёк са свайго краю? Тут, братка, такога бруха не згадуеш, як у вас. Тут скрозь платы, драты, скрозь акцыз і варта на нас.

— Бачыце, братцы, — кажа заяц, падняўшы вушы, — у нас выйшаў учора загад, каб падкаваць усіх вярблюдаў.

— Дык чаго ты, дурань, спужаўся, ты ж заяц, а не вярблюд!

— Добра вам гэта казаць, а ў нас зловяць, падкуюць, а тады ляпай падковамі па траве, пакуль давядзеш, што ты заяц, а не вярблюд.

* * *

У валасці. — Чаму ты, Алёкса, хоць такі багаты гаспадар, не пасылаеш свайго сына ў школу?

— Э-э, няхай пан пісар не жартуе. Я маю свайго сына вучыць, каб ён пасля жыдам вэксалі падпісваў, як наш паніч?.. Ці я звар'яцеў?!

* * *

— Чаму ты не арэш?

— Бо малы.

— А чаму штаны кароткія?

— Бо бацькавы.



РОДНАЕ СЛОВА

Падпіска-93 Наш індэкс 63129.

# 3 ЛІСТАПАДА — 110 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА

## ПАСЛЯ ТУРМЫ

Лунінец. Тут Якуб Колас пасля турмы знайшоў прытулак у свайго сябра па Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Вікенція Філіповіча. Жыў ён у прыватным доме нумар пяцьдзесят тры па вуліцы Садовай, займаў невялічкі пакойчык пад самым дахам. Былы семінарыст прапанаваў Канстанціну Міцкевічу частку сваіх прыватных урокаў, бо знайсці месца працы ў той час было нялёгка.

Лунінец тады ўяўляў сабою двайное пасяленне: пасад-станцыю і сяло. У пасадзе і жылі настаўнікі. Вінцук Філіповіч акрамя таго, што выкладаў прыватныя урокі, меў гадзіны і ў народным вучылішчы.

Канстанцін Міхайлавіч чакаў, каб крыху забылася яго "судовая справа", тады можна будзе рушыць далей. А пакуль ён знаёміўся з навакольнымі мясцінамі, займаўся творчай дзейнасцю. Пра гэта расказвае беларускі крытык Уладзімір Калеснік у кнізе "Зорны спеў":

"Пазбаўлены правоў, нядаўні арыштант апынуўся ў становішчы адлучанага ад грамадства беспрацоўнага інтэлігента, шукаў прыватных урокаў, чакаў, як ласкі з неба, дазволу ўлад зноў працаваць настаўнікам пачатковай школы. Але і ў тым становішчы не апусціў рук. Як апантаны рынуўся ў творчасць, пісаў паэму "Сымон-музыка", якую задумаў яшчэ ў турме як ідэйную і мастацкую праграму народна-дэмакратычнай плыні беларускай літаратуры, рыхтаваў да друку зборнік прозы "Родныя з'явы", складаў падручнік для будучых беларускіх школ.

Адзінокі выгнаннік стаў ледзь не цэлым гуманітарным аддзяленнем неіснуючай яшчэ тады беларускай акадэміі".

Працаваў тут паэт і над вершамі. Яны прасякнуты назіральнасцю да прыроды, да жыцця мясцовых сялян, іх беднасці, клопатамі пра свой лёс, пра кавалак хлеба.

І хоць добра адносіўся да сябра Вінцук Філіповіч, Канстанцін Міхайлавіч марыў пра сапраўднае поле дзейнасці. Яго цягнула да літаратараў, да больш актыўнага жыцця, бо адарванасць ад яго адчувалася ва ўсім, а тут яшчэ цяжкія матэрыяльныя ўмовы давалі знаць. Апальны паэт імкнуўся да лепшага, ён лістуецца з выдавецкімі работнікамі ў Вільні, супрацоўнікамі рэдакцыі газеты "Наша ніва", паведамляе пра напісанае. Пра гэта сведчыць адзін з яго тагачасных лістоў, адрасаваны рэдактару-выдаўцу:

"Мілы пане Грыневіч!

Цяпер пасылаю гэты расказ. Прачытайце. Гэта толькі частка вялікага расказа "Новая зямля". Але як ён мае сваё збольшага скончанае аблічча, то я вам і пасылаю. Праз нядзелю вышлю вам першы расказ у прозе "Тоўстае палена". Ён яшчэ не скончаны, усё не маю часу. Але цяпер вазьмуся за яго. У мяне ёсць напісаны расказ "Як Янка збагацеў" (калі хочаш быць багатым, не жыві па праўдзе, а круці). Узяты з народных твораў, напісаны вершам. Смешны і вясёлы. Можа прысланць?

У "Нашу ніву" нічога не пісаў. Газеты мне не шлюць. Не знаю, як іх маліць. Цяпер жыву ў Лунінцы Пінскага павета Мінскай губерні ў сябра вучыцеля. Заработак дрэнны: маю ўсяго толькі адзін урок. Можа, хіба далей палепшае.

Мой адрас: с.Лунинец, Минск.губ., Пинского уезда. Мне,
в народное училище.

Бывайце здаровы.

Усяго добрага.

Ці атрымалі "Прапаў чалавек"? За грошы дзякую.

Ваш К.Міцкевіч".

Цікавыя ўспаміны пра той час і ў мясцовай настаўніцы Любові Мікалаеўны Савінскай:

"Лунінчане па праву ганарацца тым, што вялікі беларускі пясняр Якуб Колас некаторы час жыў і працаваў у нашым горадзе. У 1911 годзе, пасля выхаду з царскай турмы, Якуб Колас прыехаў у Лунінец.

Я добра памятаю Якуба Коласа, часта з ім сустракалася. Гэта быў прывабны чалавек, вельмі любіў свой народ, захапляўся яго фальклорам, любіў спяваць народныя песні. Сустрэчы з ім у мяне захаваліся ў памяці на ўсё жыццё".

Цесную сувязь Канстанцін Міцкевіч трымаў і з газетай "Наша ніва", ліставаўся з яе рэдактарам Аляксандрам Уласавым, які надзвычай прыхільна ставіўся да пісьменніка і яго твораў. На старонках выдання былі надрукаваны апавяданні лунінецкага перыяду "Трывога", "Недаступны", "Старасць не радасць...", а таксама вершы паэта "Песня", "Эй, скажы мне, небарача".

Летась у лістападзе ў гэтых мясцінах адбылося літаратурнае свята, прысвечанае 80-годдзю лунінецкага перыяду творчасці Якуба Коласа. Праграма святочных мерапрыемстваў была разнастайнай і цікавай. Тут адбылося адкрыццё раённага краязнаўчага музея, прысвечанага настаўніцкай і літаратурнай дзейнасці паэта ў мястэчку. Ганаровымі наведвальнікамі экспазіцыі былі члены дэлегацыі Брэсцкага і Валынскага абласных аддзяленняў Саюза пісьменнікаў Беларусі і Украіны.

Адкрыліся мемарыяльныя дошкі на доме нумар сорак сем па вуліцы Савецкай, дзе нейкі час жыў паэт, і на будынку раённага краязнаўчага музея.

**Мікола ЖЫГОЦКІ.**

## КУПАЛА І КОЛАС У ВІЦЕБСКУ

Што й казаць, звычайна жыццё класікаў непарыўна звязана са сталічнымі гарадамі. Пра Купалу і Коласа такога не скажаш. Вясковы сырадой, родныя палеткі, рэкі, азёры, людзей апявалі яны не са сталічных балконаў. Вялікія песняры выйшлі з народа і з ім заставаліся да апошніх дзён жыцця...

Жыццё і дзейнасць Купалы і Коласа цесна звязаны і з Прыдзвінскім краем. Гэта маладаследаваная старонка ў айчынным літаратуразнаўстве.

У Віцебск Купала першы раз прыязджаў у чэрвені 1925 года. У Віцебскім Доме работнікаў асветы святкавалася дваццацігоддзе літаратурнай дзейнасці песняра.

21 лістапада 1926 года Купала зноў наведаў Прыдзвінне. На гэты раз у сувязі з адкрыццём Другога Беларускага драматычнага тэатра. Трэці раз прыехаў Купала ў Віцебск на трохмесячнік беларускай культуры ў 1930 годзе. Тэатр ставіў тады спектаклі па яго п'есах "Паўлінка" і "Прымакі". Пасля вайны была ажыццёўлена пастаноўка "Раскіданага гнязда". Нязменнай была любоў віцябчан да нацыянальнага мастацтва. На жаль, у апошнія гады тэатр рэдка звяртаецца да спадчыны пісьменніка.

У 1904 годзе Купала, дарэчы, працаваў малодшым аканомам у памешчыка на Сенненшчыне. У Віцебску ёсць вуліца Янкі Купалы. Прыемна, што ёй знайшлося месца ў цэнтры горада. (Вуліцы Петруся Броўкі ў гэтым плане не пашанцавала). Імем Купалы названа і гарадская бібліятэка. А ва ўрочышчы Ляўкі, што на Аршаншчыне, створаны літаратурны музей паэта, дзе з 1935 года да Вялікай Айчыннай вайны працаваў ён на сваёй дачы. Купалаўскі мемарыяльны запаведнік "Ляўкі" быў заснаваны 11 кастрычніка 1978 года. Дача паэта не захавалася ў час вайны, але была адноўлена ў 1981 годзе.

Імем Якуба Коласа ў Віцебску названы драматычны тэатр, вуліца і гарадская бібліятэка. Помняць імя Коласа і ў вёсцы Сані Талачынскага раёна, дзе пісьменнік працаваў у прыватнай школе. Імя Коласа было прысвоена Віцебскаму тэатру 21 снежня 1944 года. Тут помняць пастаноўкі па творах пісьменніка "Вайна вайне", "У пушчах Палесся", "Навальніца будзе", "Сымон-музыка".

У свой час паэт заклікаў:

Устаньце, хлопцы, устаньце, браткі!
Устань ты, наша старана!
Ужо глядзіць к нам на палаткі
Жыцця новага вясна.
Ці ж мы, хлопцы, рук не маем?
Ці ж нам сілы бог не даў?
Ці ж над родным нашым краем
Промень волі не блішчаў?
Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сцяна,
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!

Дык прачнёмся, сябры!

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**

*Немаўля*

## Народныя казкі ў апрацоўцы Якуба Коласа

### НЕ ВЫТРЫМАЎ

Адзін пан вельмі любіў слухаць казкі. Многа перaслухаў ён іх. Урэшце захацелася яму пачуць такую казку, у якой не было б ніводнага слова праўды. Знайшоўся такі казачнік. І кажа яму пан:

— Вось талерка золата. Калі раскажаш мне такую казку, каб не было ў ёй ні слова праўды і каб я сказаў табе: "ілжэш", дык тады аддам табе гэтую талерку золата.

Зірнуў чалавек на талерку — так і зіхціць на ёй золата!

І ён пачаў:

— Чаго, панок, на свеце не бывае. Вось са мною такая прыгода здарылася. Было мне гадоў пятнаццаць, але яшчэ на свет не радзіўся. Наняўся я да аднаго гаспадара пчол пасвіць — пяцьдзесят раёў пчол. Рана і вечарам я павінен быў пералічыць іх, а вечарам іх трэба было і падаіць і пазаганяць у вуллі.

— Свет вялікі, можа быць, і праўда, — кажа пан.

Глянуў казачнік на золата — блішчыць, на яго ліха!

— Раз выпусціў я пчол на пашу. Вярнуліся яны дамоў — дванаццаці пчол няма. Дзе ж бы яны падзеліся? Можа ў балоце загразлі... Кінуўся іх шукаць. Я туды, я сюды — няма. Аж бачу — адзінаццаць пчол ляцяць, параненыя, акрываўленыя. А дванаццатай няма. Ой ты, гора маё! Я далей.

— Го-го-го! — крычу.

— Гу-у-у-м, — адазвалася яна.

Зірк за рэчку — аж там чарада ваўкоў апанавала маю пчалу і душаць. А яна адбіваецца, а яна не даецца. Я, гэта, давай бегчы шпарчэй на падмогу. Да рэчкі дабег — перавозу няма! Спазнюся — задушаць яе ваўкі. Схапіў, гэта, я сам сябе за чупрыну, размахаў, разгойдаў — гопта-ля-ля! Як штурханеў, так і перакінуўся на той бок ракі.

— Можа быць, — кажа пан.

— Але з разгону як гопнуў я аб зямлю, так па поясі засеў! Я туды, сюды — не вылезу. Я так, я сяк — не бярэ. Без рыдлёўкі не зробіш нічога. Кінуўся я як мага дадому, схапіў рыдлёўку ды назад. Бягу, гэта, я, аж чую — у дупле печаныя дзятлы пішчаць. І так прынадна пахнуць! Палез я ў дупло. Лезу галавою — не ўлез, рукою лезу — не ўлез; лезу нагою — дарма! Калі ж кінуўся ўсім целам — улез! Паеў я тых дзятлоў, назад лезу. Лезу галавою — не вылезу, лезу рукою — не вылезу і нагою лезу — не вылезу.

Кінуўся ўсім целам — няма рады. Без сякеры нічога не будзе. Зноў дадому бягу, хапаю сякеру, лезу ў дупло, высякаю дзірку — вылажу. Бягу за рэчку, адкопваю сябе з зямлі і кідаюся пчале памагаць.

— Свет вялікі, можа быць, і праўда, — кажа пан.

— Праўда ці няпраўда, але прыбег я да пчалы, адагнаў ваўкоў. Бачу — не жыць маёй пчале. Я, гэта, нядоўга думаючы, шась яе нажом! Перарэзаў ёй горла. А крыві, крыві, — аж рэчка зачырванелася. Абяліў я пчалу і прывёз мяса дадому: дванаццаць кадзей мяса наклаў!..

— Свет вялікі, можа быць, і праўда.

— Можа праўда, а можа і няпраўда.

— Тут я ўспомніў, што косці засталіся на пожні. Думаю сабе — лаяць будуць людзі, што заграмадзіў касцямі больш дзесяціны сенажаці. Пабягу ды скіну іх у раку. Прыбег. Стаў падымаць хрыбет з рэбрамі. Падняў я яго, потым як штурхану ад сябе!.. Я думаў, што ўпадзе ў раку, а ён адным канцом стаіць на зямлі, а другім у неба ўпёрся.

— Свет вялікі, можа быць, і праўда.

— Ну што ж? Праўда, дык праўда.

Палез я па гэтым хрыбце на неба. Як лезці, дык лезці, і ўзлез. Бачу — у адной хаце пагулянка, святыя гуляюць: п'юць гарэлку, віно, сала поўныя місы нарэзалі, песні такія непадобныя пяюць. Ну, думаю сабе, з п'янымі, чалавеча, не займайся, а то яшчэ бакі намнуць. Іду далей. У другой хаце святы Мікола набраўся гарэлкі, як сцелька, ляжыць пад лаваю і храпе, як пшаніцу прадаўшы.

— Можа і праўда.

— Праўда, то праўда, але віламі па вадзе пісана. Каля яго ляжыць шапачка, сама залатая, з дарагімі каменнямі. Я шапачку — за пазуху ды і назад. Аж тут святы Мікола прачнуўся, пачаў бушаваць, свае шапкі шукаць. Падняўся шум, крык.

— Гэта Елісей маю шапку забраў, бо ў яго па лысіне мухі поўзаюць! — крычыць Мікола.

Ну, думаю, калі зловяць, кепска будзе.

А тут аніяк не знайду таго месца, дзе хрыбет стаяў. Бачу — пілавіны ляжаць. Давай з пілавін вяроўку віць. Звіў доўгую вяроўку. Завязаў адзін канец яе і пачаў спускацца з неба па вяроўцы. Спусціўся да самага канца вяроўкі, а зямлі яшчэ няма. Што тут рабіць? Я, гэта, вазьму ды адрэжу зверху кусок вяроўкі, а знізу надтачу і спускаюся далей.

— Свет вялікі, можа і праўда.

— Але, праўда. Стаў я, гэта, на зямлі. Бачу — не наша зямля. Агляуўся — пекла! Іду далей. Аж бачу — панскі бацька-нябожчык, абарваны, босы, такі галадранец, аж глядзець шкода. Стаіць, беднెнькі, з пугаю, свіней пасе.

— Ілжэш, хам! — крыкнуў пан.

А казачнік — цап за талерку з золатам ды за дзверы.

Якуб КОЛАС

### ХРАБРЫ ПЕВЕНЬ

Па надворку певень ходзіць,
За сабою куры водзіць
І крычыць: "Сюды! Сюды!"
Як кіўне ён галавою,
Сыплюць куры чарадою,
Як адна бягуць туды.

А калі хто кур пужае,
Певень грозна загукае:
— Хто такі там? Хто такі?
Вось на ток ён зачасаўся.
— Кыш! — адтуль хтось адазваўся.
— А які там чорт? Які?
Певень жытам кур частуе,
гаспадара бы й не чуе,
Кліча кур: "Сюды! Сюды!"
Гаспадар мятлу хапае.
Гвалт наш певень падымае:
— Хто куды! Ой, хто куды!

# ГІМНАЗІЯ Ў ПРАВІНЦЫІ

*Гімназіі ўжо сталі будзённай з'явай. Але навучальная ўстанова, аб якой пойдзе размова, не зусім звычайная.*



Яна ўзнікла тры гады назад і была першай у рэспубліцы, дзе выкладанне адбываецца на беларускай мове. Да таго ж, знаходзіцца яна не ў Мінску і нават не ў буйным абласным цэнтры, а ў невялічкіх Асіповічах, гарадку ў Магілёўскай вобласці.

Як успамінае зараз дырэктар сярэдняй школы № 1 горада, на базе якой створана гімназія, гэта быў рызыкоўны эксперымент. Тады яшчэ не існавала закона аб мове, а аб дыферэнцыраванай форме адукацыі выяўляліся даволі сціплыя гаворкі ў саюзным друку. Але ў Асіповічах вырашылі паспрабаваць.

— Спачатку ў нас займаліся першы, чацвёрты і сёмы класы, — расказвае завуч пачатковых класаў Ніна Васільеўна Жывіца. — У першы клас набралі дзетак з садкоў па тэстах, у чацвёрты і сёмы таксама пайшлі лепшыя. Цяжкасцей хапала, бо самі настаўнікі не ўсе добра валодалі беларускай мовай, не было спецыялістаў па асобных дысцыплінах. Усё трымалася на энтузіязме і жаданні стварыць нешта новае, цікавае.

Гімназія працавала. А ў Асіповічы ўсё ехалі і ехалі камісіі. Здзіўляліся: як можна працаваць у такіх умовах! Няма асобнага памяшкання, не хапае грошай...

Зараз становішча крыху нармалізавалася. У гімназію прыйшлі лепшыя настаўнікі горада і раёна. Людзі, якія не маюць педагагічнай адукацыі, таксама звяртаюцца з прапановамі. Напрыклад, адзін з асіпаўчан, медык па спецыяльнасці, прапанаваў сваю дапамогу гімназістам у вывучэнні польскай мовы.

— Наша навучальная ўстанова нічым не



адрозніваецца ад іншых такога тыпу, — лічыць дырэктар гімназіі і СШ № 1 Ала Алегаўна Ліхачова. — Тая ж праграма: дзве замежныя мовы (англійская і нямецкая ці французская па жаданню), этыка — эстэтычны курс (этычная граматыка, рытміка), тры ці чатыры спецкурсы па выбару вучня ("Біблія як помнік культуры", "Гісторыя жывапісу" і іншыя).

— А хто ж выкладае гэтыя цікавыя прадметы? — здзіўлялася я.

— Тыя ж энтузіясты, — усміхаючыся, адказвае Ала Алегаўна. — І ў нас у правінцыі ёсць людзі апантаныя. Мы, калі пачыналі, не ведалі, што будзем мець у "матэрыяльным" плане, але ніхто нават пра гэта і не пытаўся.

З "матэрыяльным" і зараз не зусім добра. Няма памяшкання. Гімназія знаходзіцца ў будынку школы, вось і займаюцца гімназісты, як і іншыя вучні, у дзве змены, а заняткаў у іх больш, чым у навучэнцаў простай школы.

— На другую змену дзеці прыходзяць ужо крыху стомленыя і на апошніх уроках вельмі мала засвойваюць матэрыял, — дадае завуч па замежных мовах Ларыса Георгіеўна Маслюк.

Настаўнікі як могуць дапамагаюць гімназістам. У пачатковых класах адна з лепшых выкладчыц Ганна Аляксандраўна Клімко ўвогуле больш заняткаў ператварае ў гульню. Затое праз тры гады яе хлопчыкі і дзяўчынкі загаварылі пабеларуску лепш за некаторых дарослых.

А вось падмурак будынка гімназіі за тыя ж тры гады вырас ненамнога.

У гімназіі зараз праводзіцца яшчэ адзін эксперымент. Уведзена пасада сацыяльнага педагога, куратара. Тацццяна Баляславаўна Хвядук — сацыяльны педагог 9 "А".

— Я працую зусім мала, — гаворыць нядаўняя выпускніца фізічнага факультэта БДУ. — Я не выкладаю ў сваім класе, а толькі прыходжу на некаторыя заняткі, і, седзячы за апошнім сталом, прыглядаюся, як працуюць вучні: хто як паспявае, хто стамляецца хутчэй. А потым у асабістай размове даю кожнаму парады па індывідуальнай працы. Аб нейкіх адчувальных зменах гаварыць рана, але, лічу, вынікі будуць.

Так і працуюць у Асіповіцкай гімназіі — заўсёды шукаюць новае, са смеласцю, з упартасцю, якім можна толькі здзіўляцца. І няхай пакуль няма асобнага памяшкання, і няхай усё трымаецца на "голым" энтузіязме. Не святыя гаршкі лепяць. Але зноў у жніўні прыходзілі ў гімназію бацькі, прыводзілі на ўступныя іспыты сваіх сыноў і дачок. І, напэўна, яны, як і я, па-добраму зайздросцяць сённяшнім гімназістам.

Наталля ЧАРАПКО.

# ШТО БАЛІЦЬ У СТУДЭНТАЎ?

"Дакуль будзе гэтая "ваенка" і навошта яна нам?" – стагналі студэнткі ВНУ ў недалёкія часы. Ці стогнуць сёння? "Не вельмі", – адказаў загадчык кафедры медпадрыхтоўкі БДУ дацэнт Л.А.Фралоў. "Відаць, штосьці істотна змянілася, калі так", – падумала я. "Адбыліся значныя змены", – пацвердзіў мае думкі Леанард Аляксандравіч.

А стала вось як. Праграма навучання скарацілася з двухсот сарака гадзін да ста дваццаці, гэта значыць, што медпадрыхтоўка будзе працягвацца толькі адзін год, а не два. Раней юрысты, біёлагі, географы абыходзіліся без медпадрыхтоўкі, з верасня гэтага года яны вывучаюць яе. Па новай праграме займацца будуць толькі студэнты-трэцякурснікі, у канцы навучання яны павінны здаць экзамен. Гэта ні ў якім разе не дзяржаўны, як лічыцца сярод студэнтаў, а выпускны, каб выставіць агульную адзнаку за ўвесь курс. Яна ўносіцца ў дыплом. Ніякія сертыфікаты не выдаюцца, а тым больш не прысвойваюцца ніякія званні.

Камісію на іспыце будуць прадстаўляць два-тры выкладчыкі кафедры, а не асобы з гарадскога аддзела аховы здароўя. Не пойдуць больш студэнты на практычныя заняткі ў клініку, дзе часцей за ўсё ім не было часу займацца, іх толькі "перапісвалі". Калоць жа па-ранейшаму будуць паралонавыя падушкі. Спецыяльных класаў для заняткаў медпадрыхтоўкай на хімфаку (там знаходзіцца кафедра) няма. Але з'явіўся кабінет, абсталяваны так, быццам там знаходзіцца хворы. Гэта зроблена для таго, каб кожны студэнт мог у выпадку неабходнасці ўсё такім жа чынам паўтарыць.

Накірунак навучання істотна змяніўся. Цяпер не даюцца інструкцыі дзеянняў у выніку хімічнага, радыяцыйнага і іншага забруджванняў. Што трэба рабіць да прыезду ўрада ў кожным выпадку, прафілактыка захворванняў (большасць якіх узнікае з-за нявєдання), уменне даглядаць хворага дома – гэтаму навучаць на занятках медпадрыхтоўкай. З'явіўся і новы раздзел – ахова мацярынства і дзяцінства, які раней быў факультатыўным. На жаль, скарачэнне гадзін не дало магчымасці ўвесці курс лячэбнага масажу. А чэк на дванаццаць спецыяльных сталоў ужо быў выпісаны.

З гэтага года медпадрыхтоўку вывучаюць не толькі дзяўчаты, але і хлопцы. Праўда, не ўсе. Напрыклад, студэнты юрыдычнага факультэта заняткі ігнаруюць.

– Медыцынская падрыхтоўка – гэта такі ж самы прадмет, як гісторыя ці дысцыпліна спецыялізацыі, зафіксаваная ў праграме ВНУ. І веды, якія тут даюцца, – практычныя, і неабходныя для кожнага чалавека, – тлумачыць Л.А.Фралоў.

Часта пытанне ісці ці не ісці на "ваенку" вырашаецца не на карысць апошняй. Студэнты хімфака ў мінулым годзе не хадзілі на заняткі два месяцы. Пасля размовы з загадчыкам кафедры прыйшлі. І засталіся, бо зразумелі, што гэта ім неабходна.




Ёсць і выпадкі адмовы ад экзамену. У мінулым годзе дзве групы гістарычнага факультэта перанеслі яго на верасень. А дзяўчаты журфака адмовіліся здаваць, тлумачачы гэта тым, што па кожнай вывучанай дысцыпліне ў іх быў залік, а сертыфікаты яны не атрымаюць. Сэнсу ў здачы агульнага экзамену яны не бачаць.

"Сёння адносіны да гэтага прадмета з боку моладзі мяняюцца", – кажа Л.А.Фралоў. За рэдкім выключэннем на заняткі студэнты ходзяць і цікавяцца. Пытанняў заўсёды шмат аб тым, што ў каго набалела. А як высвятляецца, балячак у кожнага хапае.

Наталля ГАЛЯКЕВІЧ.

(Пачатак у №№ 34-36, 37-44).

Не памыліўся. Ужо праз тыдзень той самы даглядчык перадаў яму адказ Эвы. Пісала пра тое, што робіцца навокал, што "Салідарнасць" знаходзіцца ў падполлі, што ейны муж Янак інтэрніраваны ў Стшэблінку і пад канец аб тым, на што мае захварэць, каб выйсці з турмы. З кімсьці мусіла аб гэтым кансультавацца, бо склала падрабязны вопіс усіх сімптомаў хваробы. Ліст заканчваўся запэўненнем, што калі Зыгмант выявіць усе сімптомы, то дакладна будзе перавезены ў шпіталь, а ўжо там яго будуць чакаць далейшыя інструкцыі.

Наступным днём Зыгмант не выйшаў на шпацыр. Здзіўленым сябрам тлумачыў гэта слабасцю. У канцы дня не з'еў вячэру. Праз тыдзень перастаў уставаць з ложка, але — цвёрды арэх — адмаўляўся ісці да лекара.

— Як мяне замыкалі, дык самі па мяне прыйшлі, а цяпер я да іх не пайду,— паўтараў ён.

Адміністрацыя турмы канешне ведала пра ягоную хваробу, але ўстрымлівалася ад учынкаў. Гэта была своеасаблівая вайна нерваў. Першым здаўся начальнік. З'явіўся ў камеру Зыгманта ў акружэнні чатырох стражнікаў. Кавальчык ляжаў на ложку, цяжка дыхаючы.

— Чаму вы не звярнуліся да лекара?— спытаў начальнік.— Калі жадаеце памерці, дык не ў мяне. Перавесці яго ў шпіталь, — загадаў ён стражнікам.

Інтэрніраваны Зыгмант Кавальчык праз нядоўгі час быў перавезены машынай "хуткай дапамогі" ў Гематалагічную клініку на Хацімскай. Даследаванне выказала сімптомы невылечнай хваробы — белакроўя.

— Як гэта,— пераблыталі шкелкі з аналізам!— лётаў па кабінеце дырэктар паліклінікі капітан Сканецкі.— Гэта сабатаж! У краіне ваеннае становішча! Ведаеце, што можа быць за сабатаж?

Прысутныя на гэтым паспешліва скліканым сходзе мелі ўражанне, што раз'юшаны афіцэр зараз кінецца на чалавека ў белым халаце, які бездапаможна разводзіў рукамі. Дырэктар інстытута, прафесар Мастовіч, меў гэтага ўжо досыць. Прынцыпова беспартыйны, стары Акавец, усё жыццё ненавідзеў бяспеку як заразу.

— Досыць, пан капітан,— сказаў ён, стаўшы паміж Сканецкім і лекарам.— Пан можа ўсіх нас пасадзіць за сабатаж, але факт затаецца фактам. Зроблены намі аналіз крыві паказаў на вострае белакроўе. Гэта пацвердзіў не толькі дацэнт Раеўскі, але і тры іншыя лекары. Пацыент быў прыняты ўчора вечарам і пакладзены ў другое аддзяленне. Тут не турма. Вы мусілі самі яго пільнаваць.

— Пан начальнік...

Пагружаны ва ўспаміны падпалкоўнік Гураль толькі цяпер заўважыў стаяўшую ў дзвярах кабінета сакратарку.

— Пан начальнік, перапрашаю, я званіла, але вы не адклікаліся, дык...— тлумачыла яна, адчуваючы няёмкасць з-за недарэчнасці ўмяшання.

— Што?— спытаў ён, кінуўшы позірк на гадзіннік.— А, разумею. Канешне, можаце ісці дадому.

*Панядзелак, 21 лютага.*
*Варшава, гмах МУС.*

Усе пакоі Чацвёртага Дэпартамента былі як блізняты падобныя паміж сабой. Падрапаны стол, два ці тры сейфы, убудаваная ў сцяну металічная шафа і машына для рэзкі паперы, званая паўсюль "ваўком". Па чым адрозніць пакой звычайнага супрацоўніка ад пакоя начальніка ці намесніка кіраўніка аддзела, ведаў адзін Бог, але, як казалі супрацоўнікі Дэпартамента, невядома ці Гасподзь Бог ведае пра іх больш, ці яны пра Госпада Бога. Капітан Пётр Гжэгажэўскі належаў да малодшага пакалення супрацоўнікаў МУС, але як сцвярджаў ягоны равеснік, капітан Гайда, які яго не трываў, быў больш Папам, чым сам Папа.

Цяперашні занятак Гжэгажэўскага быў далёкі ад паважнасці, якой атуляла яго службовае становішча. Капітан у чарговы раз вырашыў навесці парадак у сваіх паперах і ўключыў "ваўка". Было агульнавядома, што "воўк" не ёсць тэхнічнае дасягненне, а капітан пераконваўся ў гэтым на ўласнай скуры. З машыны, што стаяла ў куце пакоя, валілі аблокі шэра-бурага дыму і чулася жахлівае скрыгатанне. У дадатак кожнае прыцісканне капітанам кантакту выклікала ў яго жаласлівыя стогны. Гжэгажэўскі, сіні ад злосці, спрабаваў выдзерці з пашчы апарата аркуш паперы з яшчэ бачным грыфам "Сакрэтна, асобага значэння", але машына не нішчыла і не аддавала, толькі ўсё мацней дыміла.

У гэты самы непажаданы момант, у пакой увайшоў палкоўнік Сэлер. Гжэгажэўскі, падскочыўшы, сеў на "звэжай", вырваў з пашчы машыны аркуш і тая ў момант, калі ён згодна са статутам, рапартаваў таварышу дырэктару, перамажна завыла і запрацавала, перамалоўшы дакумент, да таго не прызначаны. Гжэгажэўскі, на мяжы нервовага зрыву, ляснуў яе кулаком і яго агарнула выратавальная цішыня.

— Перапрашаю, таварыш дырэктар, але ўжо некалькі месяцаў не магу дапрасіцца, каб адміністрацыя зрабіла рамонт. Не магуць даць ёй рады, як і ўсяму іншаму. Гэта яшчэ не найгоршы выпадак.





— Не наракайце, Гжэгажэўскі. На ўсё настане час. Зайдзіце да мяне на пару хвіль, ёсць важная справа да ўзгаднення,— сказаў дырэктар і выйшаў.

Гжэгажэўскі, пералічыўшы ў галаве зробленае, рушыў да кабінета шэфа. Рахнак выглядаў задавальняюча. Здолеў увесці трох агентаў у асяроддзі варшаўскай і ольштынскай курыяў. Скончыў збор кампрамату на двух ксяндзоў — не на дробных плотак, а на асоб, якія сядзелі пад скурай усяго міністэрства. Аперацыйная гульня абяцала быць цікавай. Падрыхтаваных ім матэрыялаў хапіла на добры працэс. Так, меў прычыны ісці да дырэктара з узнятай галавой.

— Таварыш дырэктар!— афіцыйна пачаў ён ад дзвярэй.

— Сядайце. Як ваша праца?— тон дырэктара сведчыў, што пытанне не выпадковае.

— Маю падрыхтаваныя матэрыялы супраць Янкоўскага і Папалушкі. Толькі сэрцам чую, таварыш дырэктар, што "зялёныя" зноў возьмуць гэта ў свае рукі. І замест таго, каб распачаць працэс і пасадзіць іх на колькі гадоў, усё зноў скончыцца пагрозай пальцам і перадачай дакументаў у Епіскапат. На мой погляд, менавіта цяпер прыдаўся б добры судовы працэс. Хай ведаюць: візіт ім нічога не дасць.

— Не хвалюйцеся. Мы павінны быць спакойнымі, але гэта не значыць — бяздзейнымі. Ёсць яшчэ шмат таварышаў, якія гэтак жа, як мы мысляць. Таксама лічаць, што добра пастрашыць ксяндзоў нам не пашкодзіць. Менавіта пра гэта хачу з вамі пагаварыць. Вы падрыхтуйце для кіраўніцтва даныя пра найбольш актыўных ксяндзоў, кампраметуючыя матэрыялы, адным словам усё, што магчыма. Выклічце людзей з водпуская. Задзейнічайце ўсіх супрацоўнікаў. Мы павінны ведаць пра ўсё, што будзе адбывацца. Асаблівую ўвагу звярніце на Гданьск. Маем звесткі, што Янкоўскі хоча дапамагчы Валенсу сустрэцца з Папам. Гэтаму трэба перашкодзіць. Падрыхтуйце некалькі аперацыйных гульняў, можа, нешта звязанае з беспарадкамі ў школах. Адзіная ўмова, Гжэгажэўскі: рабіць усё ціха. Крык кліру і апазіцыі нам цяпер не патрэбны. Яны павінны баяцца, а не крычаць! За тыдзень падрыхтуйце план, а потым — рэгулярныя рапарты аб выкананні. Вусныя рапарты, таварыш капітан!

Гжэгажэўскага не здзівіла апошняе патрабаванне. Ад пэўнага часу паміж дырэктарам Сэлерам і ягонымі падуладнымі завязалася ледзьве бачная чужым сувязь людзей, што разумеюць сітуацыю. Абодва не любілі тых смаўжоў з цяперашняй кіруючай эліты і не мелі б нічога супраць, калі б тыя вылецелі з сядла. А як разумеў Гжэгажэўскі, ягоны шэф рабіў усё, каб дапамагчы ім у гэтай прыспешанай вандроўцы. Ён разумеў, наколькі небяспечная такая гульня. Але ў Сэлеры ён не сумняваўся.

— Асобныя таварышы вамі вельмі цікавяцца, капітан,— сказаў ён нядаўна свайму падначаленаму, калі той прынёс яму свежасфабрыкаваны ананімны ліст, які меў быць падкладзены адному з ксяндзоў у Варшаве — ім падабаюцца вашыя простыя і эфектыўныя метады.

Ад часу тае размовы Гжэгажэўскі пачаў падбіраць сабе лаяльных супрацоўнікаў і часцей чым раней распрацоўваць хады на мяжы бясправя. Больш не сумняваўся. Ці тыя, супраць каго ён працаваў, думалі аб праве, калі ганілі партыю, народную ўладу і ейныя органы? Права было тут цалкам бездапаможным. Ведаў гэта. Сам збіраў там доказы. Рэгулярна высылаў на праўную ацэнку ў Следчае Бюро матэрыялы з чарговых распрацовак ксяндзоў і заўжды пасля аналізу казанняў і ўвогуле ўсіх публічных выступаў ягоныя матэрыялы вярталіся ў суправаджэнні доўгага пераліку парушэння паасобных артыкулаў карнага кодэкса. І нішто далей не рабілася. Але ж ён меўся абараняць гэтае права. Дык калі ён быў змушаны, справакаваны гэтым бяссіллем да парушэння права, дык толькі дзеля абароны найвышэйшых каштоўнасцей, дзеля бяспекі дзяржавы і партыі.

Так, права — гэта цалкам умоўная катэгорыя паняццяў.

*Аўторак, 1 сакавіка.*
*Варшава,*
*прэсавы цэнтр "Інтэрпрэс".*

Прэс-канферэнцыя сакратара ўрада па сувязях з друкам:

*Міністр Ежы Урбан:*

*— Каб адказаць на пытанне, ці ўрад прызнае касцёлы за святыні, вольныя ад палітычных і паліцыйных акцый, мушу сказаць, што ўрад уважае: касцёлы не павінны быць месцам палітычных акцыяў, але выключна месцам, дзе людзі займаюцца рэлігіяй, збіраючыся з гэтай мэтай. Хацеў бы таксама сказаць, што часцей робіцца інакш. У шмат якіх выпадках касцёламі злоўжываюць дзеля правядзення імпрэзаў палітычнага характару, ці таксама пасля выхаду з касцёла адбываюцца імпрэзы палітычнага характару. І настойліваць паўтарэння такога кшталту падзей схіляе польскія ўлады да падазрэнняў, што арганізатары тых акцый, якія, дарэчы, часцяком дзеюць насуперак заклікам ксяндзоў спакойна разыходзіцца па дамах, маюць намеры ўскладніць ці пагоршыць умовы рыхтаванага візіту Папы ў Польшчу.*

*Паколькі прыезд Папы ў Польшчу — што ёсць намерам Папы, а таксама яго прыём — што ёсць намерам польскага ўрада і Епіскапату — узбуджаюць розныя крытычныя заўвагі на Захадзе, у тым ліку крытычныя заўвагі прэсы, мы бачым, што на свеце існуюць розныя палітычныя сілы, зацікаўленыя ў тым, каб гэты візіт не адбыўся. Ну што ж, можна падазраваць, што гэтага кшталту перакананні і памкненні падзяляюць нейкія радыкальныя элементы ў Польшчы, ствараючы вакол касцёлаў неўласцівую палітычную атмасферу.*

Дэн Фішэр, "The Angeles Times":

*— Ці маглі б вы нешта сказаць пра тыя непажаданыя элементы, якія ствараюць неадпаведную сітуацыю ў касцёлах? Я хацеў бы даведацца, ці ёсць нейкія іншыя месцы, дзе існуюць экстрэмісцкія элементы, напрыклад, у партыі ці нейкіх іншых інстытутах, якія б таксама спрабавалі б супрацьдзейнічаць візіту Папы?*

Міністр Ежы Урбан:

*— Выказаў гіпотэзу, якая зыходзіць з палітычнага разумення: калі мы ўвогуле назіраем у свеце нейкія выказванні і каментары супраць візіту Папы, і адначасова назіраем у Польшчы пад час асобных рэлігійных урачыстасцяў палітычныя правакацыі, дык я папросту бачу сувязь паміж гэтымі падзеямі і магу дапускаць, што ў Польшчы ёсць радыкальныя палітычныя элементы, якія былі б вельмі рады, калі б Папа не наведаў Польшчу. На гэтую тэму я сказаў толькі гэта. У дачыненні нейкіх іншых элементаў, якія процідзейнічалі б намеру візіту Папы, — такіх не існуе, што пацвярджаецца фактам адсутнасці любых палітычных правакацый, якія маглі б сапсаваць клімат рыхтаванага візіту.*

*Субота, 19 сакавіка.*
*Варшава.*

Фрагмент афіцыйнага ліста прымаса Юзэфа Глемпа, накіраванага ад імя Канферэнцыі Епіскапату да Папы Яна Паўла II:

*Увесь народ прагне прыняць свайго шанаванага суайчынніка. Дзяржаўныя ўлады, што таксама запрасілі Вашую Свяцейшасць, запэўніваюць, што са свайго боку падрыхтуюць годны прыём.*

*У чаканні сустрэчы з Вашым Свяцейшаствам мы ў сваёй душапастарскай працы рыхтуем нашыя духоўныя дары: дар апекі і аховы кожнага жыцця, дар годнага жыцця, дар надпрыроднага жыцця. Дары тыя, з цяжкасцю сабраныя і ў грамадскім вымярэнні вельмі недасканалыя, прагнем прынесці Богу праз рукі Вашага Свяцейшаства, верачы, што заступніцтва Тае, якая 600 гадоў ёсць дапамогай і абаронай вернага люду, стане абаронай жыцця, ягонай годнасці ва ўзаемным стаўленні палякаў, а таксама дапамогай у тым вымярэнні жыцця, якое вырастае з веры і злучае нас з Богам.*

*З найглыбейшай пашанай аддany Вашаму Свяцейшаству — Юзэф Кардынал Глемп*

*Арцыбіскуп Мітрапаліт*
*Гнезьненскі і Варшаўскі*
*Прымас Польшчы.*

*Аўторак, 22 сакавіка*
*Варшава.*

Старшыня Дзяржаўнае Рады Генрык Яблоньскі:

*...ад імя вышэйшых уладаў Польскай Народнай Рэспублікі і свайго ўласнага, згодна з дамоўленасцю з Епіскапатам Польшчы, запрашаю Вашае Свяцейшаства паўторна наведаць Польшчу ва ўзгодненым тэрміне 16—22 чэрвеня 1983г.*

*Адначасова выказваю перакананне, што роўна як самое абвяшчэнне візіту Вашага Свяцейшаства ў гэтым годзе, так і падрыхтоўка да яго, а асабліва ход і вынікі стануць карыснымі для дабрабыту Айчыны, польскай сацыялістычнай дзяржавы, для распачатага ў краі працэсу нацыянальнага паразумення і далейшай нармалізацыі адносін паміж дзяржавай і Касцёлам.*

*Варшава, на наступны дзень.*
*Паведамленне Прэсавага Бюро Епіскапату Польшчы:*

*Святы Айцец пагадзіўся з просьбаю Прымаса і Епіскапату Польшчы, а таксама спадзяваннямі грамадства і прыбудзе ў Польшчу, як гэта абвешчана, у дзень 16 чэрвеня г.г. і наведае Варшаву, Тэрэзін (Непакалянув), Чэнстахову (Ясну Гуру), Познань, Пекары Сьлёнске, Вроцлаў, Гару Святой Ганны і Кракаў.*

Пераклад з польскай
У. ПАНАДЫ.

(Працяг будзе).

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

## “ХОЧАЦЦА РАБІЦЬ ДАБРО...”

У Доме інвалідаў, які знаходзіцца па вуліцы Ваўпшасава, я працую сястрой міласэрнасці. Уся работа заключаецца ў тым, што купляю жыхарам нашага ціхага прыстанішча прадукты, крыху прыбіраю ў пакоях (у нас шмат ляжачых), падбадзёрваю старых, размаўляю з імі...



Соф'і Гарэлік – 87. Заўсёды – ласкавая, пытаецца пра бацькоў, сяброў, вучобу... “Дачушка, ты нічога мне не прынось, толькі сама прыходзь. Хачу бачыць цябе і ведаць, што ўсё добра”. Ніколі ні на што не скардзілася, калі хварэла – таксама. І, як дзіця, радавалася жыццю. Яна радавалася, а мы ўсё скуголім...

Ева Дрыбінская: “Тады прывезлі нас у Асвенцім. Мяне з дачушкай разлучылі, яе пачалі біць. Яна крычыць: "Мамачка, дапамажы!". А я з месца скрануцца не магу – побач немец з аўтаматам. Толькі пра адно думала: чаму б'юць яе, а не мяне? На трэці дзень дачушку спалілі. А ў 44-м загінуў муж...".

Можа, сёння гэта ўжо нецікава, неактуальна? Але, гледзячы на сваіх “падапечных”, заўсёды думаю пра тое, што калі-небудзь таксама стану старой. Ці знойдзецца чалавек, які захоча выслухаць мяне?

Міласэрнасць – праца душы. Гэта прыкладна той стан, у якім вернікі выходзяць з Храма. Азірніцеся вакол сябе... І хаця б аднаму – дапамажыце...

**Святлана ЧАРНАЯ.**



# «НІКОМУ НЕ ВЕРУ. НЕ МАГУ...»

Мы бавілі час у "Лявона". Добра, ведаеце, паседжваць ва ўтульнай установе, калі няма чаго рабіць, а да закрыцця засталося болей за дзве гадзіны. Амаль пустая зала, ненадакучлівае святло, прысмак "Жыгулёўскага" і Філ Колінз у якасці "дэсерту". Як мала трэба чалавеку для шчасця!

У "Шынок" я прыйшоў з Юрам, сябрам дзяцінства. Пасля немудрагелістага пытання "як справы?" і такога ж адказу "дзякуй, нармальна" пра што, скажыце, можа зайсці гаворка паміж маладымі хлопцамі за куфлем піва? Зразумела, пра дзяўчат. (Не пра чарговае ж павышэнне курсу даляра ці сумныя студэнцкія будні). Толькі гэта тэма і дае магчымасць ненадоўга забыцца, тым больш, што Юра – вялікі спецыяліст па гэтай частцы. Для яго не складае цяжкасці гадзінамі расказваць свае байкі. І самае галоўнае – ён не хлусіць. Проста з некаторага часу дзяўчаты сталі яго галоўным "хобі". Як прызнаецца Юра, ён не можа прайсці абыякава міма больш-менш прывабнай "герлы". (Гэта назва, дарэчы, усё ж лепш за цэлы арсенал буйнога быдла, сярод якога "цялушкі", "кабылы" і іншыя чацвераногія істоты). Дык вось, Юра не панк і не рокер, не алкаш, не хуліган, а проста нармальны хлопец, модна апрануты і пастрыжаны. Ён з тых людзей, якія ў любой кампаніі аказваюцца ў цэнтры ўвагі. Падабаецца дзяўчатам, а дзяўчаты падабаюцца яму. Такі вось кансенсус. Але, нягледзячы на вышэйпералічаныя якасці, пра яго наўрад ці напішуць некалі кнігу з серыі "Жыццё цудоўных людзей".

Калі ўвесь стол ужо быў застаўлены парожнімі бакаламі, размова стала зусім шчырай.

– Вось было нядаўна, – Юра зноў сеў на свайго "канька". – Прачынаюся, з цяжкасцю расплюшчваю вочы, усё вакол плыве. Наводжу "рэзкасць": незнаёмы пакой, канапа... Побач разляглася нейкая дзеўка. Першае, на што падае позірк, – яе бюст. Далей гляджу на твар. Дзесьці я яе бачыў? Штурхаю ў бок: "Ты хто?". Яна ляніва так пацягваецца, пазяхае і кажа: "Няўжо не памятаеш?". Успомніў. Таня... Сядзелі, ведаеш, такія сціплыя дзяўчынкі ў Траецкім, "Пепсі-колу" папівалі... Я з ёй паўлітра "раздавіў". Далей – як праз сон. Не памятаю, як дабіраліся да яе на Захад, на што быў тады здольны. – Юра пагардліва скрывіўся. – Вось баб'ё, усе як адна. Сусед мой, прыяцель добры, служыць. Нядаўна атрымаў ад яго ліст. Піша: "Ты не ведаеш, як там мая Ленка? Другі месяц вестак чакаю, Ужо хвалявацца пачаў. Можа, што здарылася?" А калі Ленцы пісаць? Па рэстаранах швэндаецца, дома не начуе... Усё лета па поўдні бадзялася. Што яму распавесці? Калі даведаецца – са службы сарвецца. Ён так яе кахаў, літаральна на руках насіў. Аднаго разу нагу падвярнула, дык на пяты паверх нёс. Кветкі дарыў... Я сам гэткі дурны быў. Дурны, таму што хацеў у кожнай перш за ўсё чалавека



бачыць. Сустракаешся з дзяўчынай тыдзень, другі. Здаецца, вось яна, тая, пра якую марыў. Прыгожая, сціплая, чулая. Зусім не падобная да іншых. Пераспаць з ёй? Ды не, як можна, яна не такая... А гэта "не такая" ўжо ложак Расцілае, сама распранаецца. Ну, думаеш, не пашанцавала... Сустракаеш наступную – і зноў, і зноў...

Старэйшыя сябры параілі: "Плюнь на іх, усе яны с..., думай пра сябе". Паслухаўся – і справа пайшла. Іншы раз нешта шапочаш пяшчотнае, а ў галаве думка: "Ну што ты, ..., з сябе корчыш, усё роўна ў ложак ляжаш".

Я спытаў у Юры, няўжо ён не ведае ніводнай добрай дзяўчыны.

– Ну чаму, ведаю. Гэта мая сястра. Ёй восем год, і яна ходзіць у другі клас, – зноў усміхаецца. – А калі сур'ёзна, была ў мяне дзяўчына з такім незвычайным зараз імем – Ліда. Не ханжа, але цудоўная дзяўчынка. Мы адзін аднаго разумелі. Сустракаліся некалькі месяцаў, але яе я таксама кінуў. У той самы момант, калі адчуў, што Ліда для мяне – не проста сяброўка. Я стаў баяцца сапраўднага пачуцця. Нікому не веру. Не магу...

Дзе вы, дзяўчаты, для якіх сапраўды можна складаць вершы? Вас не бачна. Вас не чутна. Здаецца, вы ўсе ў старых раманах...

**Сяргей МАКАРАНКА.**

**Сёння мы вырашылі не чытаць аніякай "маралі", а проста надрукаваць вашы допісы. Яны вельмі розныя, але аб'ядноўваюцца спрадвечным пошукам ідэалу, сэнсу жыцця і свайго месца ў гэтым жыцці. У рэшце рэшт, у кожнага з нас – свая мараль, кіруючыся якой, адзін ідзе дапамагаць старым і хворым, другі нармальных людзей ператварае ў хворых, а трэці глядзіць на першага і другога і...смяецца.**

**Цікавыя вы стварэнні, людзі. Дні і ночы праводзіце ў мітусні і пошуках, у пошуках і мітусні... І толькі пад канец пачынаеце разумець, што прайшлі міма чагосьці сапраўднага і галоўнага, шукалі не тое, мітусіліся не там...**

**"Вось цяпер я ведаў бы, як жыць", – думае кожны. Але не дай Бог яму другога жыцця. Ён нарабіў бы ў ім роўна столькі ж глупства...**

# ЖЫЦЦЁ-БІЦЦЁ

*Усё жыццё*
*мяне білі.*
*Невядома за што*
*і невядома чаму.*
*Ці то ўбівалі ў мяне*
*чалавека,*
*ці то выбівалі*
*яго з мяне.*
*П'яны, звар'яцелы*
*бацька біў малое*
*і кволае дзіця.*
*Ці не таму ён меў*
*права біць,*
*што даў мне некалі*
*гэта жыццё?*
*Ён страшэнна*
*біў і маці.*
*Біў усім, што*
*трапляла пад руку.*
*Ішлі ў ход качэргі,*
*вілы, нажы,*
*сякеры і г.д.*
*За што?*
*Можа, за тое,*
*што нарадзіла яму*
*восем дзяцей?*
*І ўсе яны былі*
*недагледжаныя,*
*напаўраздзетыя,*
*напаўгалодныя...*

Бацька прапіваў усе грошы. Ён жыў дзеля ўласнага задавальнення, любіў і жанчын. Па суседству нараджаліся дзеці, вельмі падобныя на нас. І іх ён шкадаваў нават болей. У хату, наколькі памятаю, ніколі не заходзіў па-чалавечы. Або грукаў нагой, або ўпаўзаў у літаральным сэнсе гэтага слова. Уключыўшы святло, паднімаў усіх на ногі. Чаму, маўляў, спакойна спіце, калі мяне яшчэ няма дома, чаму не чакаеце? А можа са мной штосьці здарылася?

Неяк яго пераехала машына, не пераехала, а проста прапусціла паміж колаў. Ён ляжаў на дарозе, як бервяно... Памятаю, тады я і маці на саначках цягнулі яго дадому, каб не змёрз. Цягнулі і плакалі. Што адчувала тады мая дзіцячая душа? Толькі адно: ён — бацька і яго трэба ратаваць... Потым ён ачуняў. І ледзь не забіў старэйшую сястру за тое, што маці купіла ёй новае паліто. “Адкуль у цябе грошы? — пытаўся бацька ў маці. — За якія шышы ты робіш пакупкі? Нябось, здагадваюся, хто і за што табе заплаціў...”. Я не магла гэта выносіць. Лезла ратаваць маці, сясцёр і братоў, за што і атрымлівала. Неяк татачка перабіў мне ключыцу, у наступны раз зрабіў трэшчыну на назе... Я да сёмага класа пастаянна сыходзіла з дому. Ад адчаю. Хацелася нават звесці рахункі з жыццём. Спрабавала ўтапіцца. Але ў апошні момант спыняла думка: трэба жыць назло ім усім. Выходзіла з хаты, валілася на траву і ляжала... Гадзіны ў тры ночы станавілася жахліва ад адзіноты... Плялася дадому, праз акенца ўлазіла ў пакой, клалася дзе-небудзь і рабіла выгляд, што сплю...

Яны хацелі выбіць з мяне чалавечнасць. Выбіць назаўсёды. Толькі не выйшла па-іхняму... Я жыву. І я — чалавек.

**С.В.**



Падпіска-93. Наш індэкс — 63129

# НАЖОМ ДА ГОРЛА

## сустрэў жанчыну праз 14 год родны горад

Ганна Шэрава нарадзілася і вырасла ў Мінску. Пасля каля 14 год жыла ў Тындзе.

І вось жанчына назаўсёды вярнулася ў свой родны горад.

У той вечар яна лягла спаць позна — а другой гадзіне ночы, бо доўга глядзела тэлевізар. Толькі выключыла святло, як зазваніў дзвярны званок.

Ганна нікога не чакала ў такі позні час, але на ўсялякі выпадак падышла да дзвярэй і спытала, хто там? Мужчынскі голас адказаў: "Гэта я, Саша!". Жанчына сказала, што Сашу не ведае, і папрасіла не турбаваць яе.

Тады пачуліся моцныя ўдары ў дзверы. Шэрава моцна напалохалася, пачала крычаць і клікаць людзей на дапамогу, але ніхто яе не чуў. Неўзабаве дзверы не вытрымалі.

У кватэру ўбег высокі незнаёмы хлопец. За ім крочыў другі, які рукой закрыў жанчыне рот, каб не крычала. Паваліў яе на канапу, прыціснуўшы рукой твар. Першы прыставіў да горла нож: "Давай грошы і золата!..".

Тым часам у кватэры апынуўся і трэці. Ён адразу ж узяўся абшукваць шафы...

Як толькі рабаўнікі пайшлі, жанчына па тэлефоне паведаміла аб нападзенні ў Фрунзенскі РАУС.

Літаральна праз 10 хвілін на рагу вуліц Сердзіча і Матусевіча сяржанты міліцыі Ю.Дзяўго і А.Часнок затрымалі 17-гадовага У.Ярша. Пры ім былі рэчы, выкрадзеныя з кватэры Шэравай.

Яшчэ праз 15 хвілін камандзір аддзялення патрульна-паставой службы УУС Мінскага гарвыканкама І.Кіслы і міліцыянер гэтага ж аддзялення І.Багрыцэвіч на прыпынку тралейбуса затрымалі нідзе не працуючага дваццацідвухгадовага В.Радыгіна. Пад лаўкай, на якой ён сядзеў, ляжаў партаманет Шэравай...



Праз некалькі дзён следствам быў устаноўлены і трэці ўдзельнік нападзення. Ім аказаўся раней чатыры разы судзімы 32-гадовы А.Бараўцоў, які больш за 10 гадоў правёў у месцах не такіх ужо аддаленых.

Як высветлілася ў час следства, у групу сабраліся прафесійныя злачынцы. Ніхто з іх не працаваў. Непаўналетні У.Ерш прымаў удзел у ажыццяўленні некалькіх злачынстваў. У маі 1989 года ён з "сябрамі" збіў прахожага, адняў у яго грошы. У ліпені сарваў з жанчыны залаты ланцужок з кулонам. Быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прыгавору.

Два іншыя — А.Бараўцоў і В.Радыгін — за тры тыдні да разбойнага нападзення на кватэру Шэравай абрабавалі яшчэ адну кватэру — па вуліцы Матусевіча ў г.Мінску. Вечарам, калі дома нікога не было, яны ўзламалі дзверы, выкралі гарэлку, каштоўнасці і грошы.

Народны суд Фрунзенскага раёна г.Мінска за разбойнае нападзенне асудзіў Бараўцова на 10 гадоў пазбаўлення волі, Радыгіна на 8, Ярша — на 6 год. Апошняму да пакарання дадалі неадбыты тэрмін па папярэдняму прыгавору.

Заўвага:
прозвішча пацярпеўшай зменена.

Л.ГРАНКОЎСКІ.

# "ТЫ МЯНЕ ПАВАЖАЕШ?"

Звычайна такое пытанне ўзнікае пасля некалькіх шклянак "горкай".

Пасля можна пачуць гукі пацалунку, а можна і аплявухі. Вось і ў нашым выпадку пасля агульнай выпіўкі ўспыхнула бойка.

Высветліць адносіны спрабавалі вадзіцель калгаса "Сацыялістычны шлях", яго сябар, чацвёртакурснік Крычаўскага саўгаса-тэхнікума, і шэсць студэнтаў Магілёўскага хіміка-тэхналагічнага тэхнікума.

Студэнты прыязджаюць у гаспадаркі Крычаўскага раёна кожную восень, каб дапамагчы правесці ўборку. Прыехалі яны 5 верасня і ў калгас "Сацыялістычны шлях". Іх размясцілі па хатах у вёсцы Іванаўка, прыставілі вадзіцеля, які вазіў на поле і на абед. Апошні быў хлопец кампанейскі, таму за лічаныя дні паміж ім і студэнтамі наладзіліся цёплыя сяброўскія адносіны.



Надзвычайнае здарэнне адбылося 22 верасня. У 17.00 вадзіцель забраў студэнтаў з ільнянога поля і павёз у сталовую. Па дарозе сустрэў свайго сябра. Той сеў у аўтобус, каб пакатацца і правесці час да пачатку кінасеанса. Студэнты пацікавіліся ў вадзіцеля, дзе б знайсці гарэлкі.

— Гарэлку дастаць цяжка, а спірт — без праблем. Бутэлька — 120 рублёў. Збірайце грошы, пасля сталовай адвязу, — прамовіў "добры чарадзей".

Вадзіцель развёз моладзь па хатах, сябра пакінуў ля клуба, а сам са студэнтам пакаціў у Крычаў. Спыніліся на ўскраіне. Хлопцы пасядзелі ў машыне, а вадзіцель наведаў "кансператыўную кропку", Вярнуўся разам з нейкім юнаком.

— Колькі? — запытаў той.

— Чатыры.

— 480 рэ.

Студэнты перадалі незнаёмцу грошы і той прынёс ім жаданае пітво ў трохлітровым слоіку. Паехалі ў вёску.



Там спыніліся ля хаты. Чатыры хлопцы адлілі сабе літр спірту і пайшлі, а літр пакінулі двум сябрам і вадзіцелю, якія пачалі частавацца прама ў аўтобусе. Тым часам у клубе закончыўся фільм, і гледачы пачалі разыходзіцца. Прыйшоў і сябра вадзіцеля.

Слоік быў ужо апарожнены. Адзін са студэнтаў прапанаваў схадзіць да сяброў, думаў, што ў іх нешта засталося. Рушылі наперад. Па дарозе сустрэлі хлопца і дзвюх дзяўчат, якія ішлі з калгаснага саду.

— Ідзіце ў сад, хлопцы там. А мы збегаем па бутэльку і хуценька вернемся, — сказалі тыя.

Зайшлі ў сад. Там, пад разлапістымі яблынямі, сядзелі тры хлопцы і дзяўчына. Месца ціхае, непрыкметнае: ні выхавальнік, ні інспектары не знойдуць.

Прывіталіся, пачалася размова. Тым часам "ганцы" прыбылі з бутэлькаю гарэлкі. Пачалі яе дзяліць. І тут вадзіцель адмовіўся ад каліха, чым нанёс "знявагу" гаспадарам. Тады і прагучала пагрозлівае: "Ты нас паважаеш?.."

— Паважаю.

— Тады пі...

— Не буду, — сказаў хлопец і адштурхнуў.

Гэтага было дастаткова. Нерастрачаная маладая энергія знайшла выйсце. У ход пайшлі кулакі...

Супраць дваіх з кампаніі ўзбуджана крымінальная справа.

Гандляр устаноўлены, яго прозвішча ўжо можна назваць — гэта навучэнец СПТВ-112 Андрэй Самсонаў.

Дарэчы, у час вобыску, які праводзіўся ў кватэры Самсонавых, увагу міліцыянераў прыцягнула малочная фляга, што стаяла ля печы. Там выспявала брага, чакаючы свайго часу. Цэлыя 40 літраў...

А.БАЛДОЎСКІ.

*Інфа-крым*

## "ЭХ, ДАРОГІ..."

Як паведамілі ў арганізацыйна-аналітычным аддзяленні рэспубліканскага ўпраўлення ДАІ МУС Беларусі, за дзевяць месяцаў 1992 года на дарогах нашай рэспублікі загінула 1468 чалавек, 6316 атрымалі цялесныя пашкоджанні. Усяго ж за гэты перыяд здарылася 6214 дарожна-транспартных здарэнняў.

Франц ЛЯВІЦКІ.




У бюро дзяжурыў Павел Сіманаў.

## Лік на табло

Каб упэўнена сказаць, што закончыўся першы круг другога нацыянальнага футбольнага чэмпіянату Беларусі, трэба дачакацца 9 лістапада. Менавіта ў гэты дзень нарэшце адбудуцца адкладзеныя сустрэчы "Гомсельмаш"–"КІМ" і "Будаўнік"–"Ведрыч", а тады ўжо зможам у табліцы ў графе "гульні" кожнай камандзе паставіць лічбу "16". 5 лістапада адбудуцца чатыры адказныя гульні 1/4 розыгрышу Кубка Беларусі. Акрамя ж гэтых шасці гульняў у гэтым годзе на палях нашай краіны вялікага футбола мы ўжо, здаецца, не ўбачым.

У мінулы "уік-энд" згуляны матчы апошняга тура першага круга чэмпіянату. Усе тры сталічныя каманды гулялі ў Мінску на галоўным стадыёне. Лідэр – мінскае "Дынама", як заўсёды, упэўнена і пераканаўча перайграў у суботу "Ведрыч"(6:1). У нядзелю там жа, на "Дынама", пры такой жа ўмоўнай колькасці гледачоў і студзёным надвор'і "Беларусь" прымала мінскае "Тарпеда". Вострыя выпады ў атацы і адной, і другой каманды не атрымліваліся выніковымі да сярэдзіны другога тайма, калі Юрый Вяргейчык адкрыў лік прыгожым ударам у кідку галавой. Другі мяч (і гэта ўжо традыцыйна для "Беларусі"), забіў Віталь Лясун, які выйшаў на замену. Рызыкну зрабіць прагноз: у другім крузе хутчэй за ўсё будзе расці адрыў не толькі мінскага "Дынама" ад астатніх каманд, але і "Беларусі" ад бліжэйшых праследавацеляў.

Традыцыйныя навіны пра саперніцтва каманд, якія размяркоўваюць месцы з трэцяга па сёмае. Выйшаў наперад "Хімік", які перайграў у Жодзіна "БелАЗ" з мінімальным лікам 1:0. Астатнія чатыры сапернікі чарговыя матчы згулялі ўнічыю. Вось вынікі: "Абутнік"–"КІМ"– 0:0, "Шахцёр"–"Тарпеда" (Магілёў)– 0:0, "Лакаматыў"–"Дынама" (Брэст) –1:1, "Гомсельмаш"–"Днепр"– 1:1. Толькі на ачко адстае ад гэтай групы бабруйскі "Трактар", які ў Старых Дарогах перамог "Будаўнік" (2:0).

Калі памятаеце, у мінулым туры скандальным атрымаўся матч у Магілёве паміж мясцовымі тарпедаўцамі і іх мінскімі калегамі-аднаклубнікамі. Ён стаў прадметам сур'ёзнай размовы на судзейскім камітэце нашай футбольнай федэрацыі. Вынік размовы прадметны: жлобінскі суддзя А.Чабыкін дыскваліфікаваны на тэрмін... да канца першага круга. Гэта значыць толькі на адзін тур. Даволі ўмоўная дыскваліфікацыя.

### ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама Мн | 16 | 14 | 2 | 0 | 45-8 | 30 |
| Беларусь | 16 | 10 | 3 | 3 | 27-12 | 23 |
| Хімік | 16 | 8 | 5 | 2 | 15-15 | 21 |
| КІМ | 15 | 7 | 6 | 2 | 18-8 | 20 |
| Тарпеда Мг | 16 | 6 | 8 | 4 | 21-10 | 20 |
| Дынама Бр | 16 | 7 | 5 | 4 | 19-11 | 19 |
| Днепр | 16 | 7 | 5 | 4 | 22-17 | 19 |
| Трактар | 16 | 6 | 6 | 5 | 14-6 | 18 |
| Шахцёр | 16 | 6 | 5 | 6 | 12-15 | 17 |
| Гомсельмаш | 15 | 4 | 5 | 6 | 10-16 | 13 |
| Тарпеда Мн | 16 | 3 | 7 | 8 | 15-20 | 13 |
| Будаўнік | 15 | 4 | 3 | 9 | 8-15 | 11 |
| Металург | 16 | 4 | 3 | 7 | 17-25 | 11 |
| Ведрыч | 15 | 3 | 5 | 7 | 14-26 | 11 |
| Лакаматыў | 16 | 2 | 6 | 8 | 15-23 | 10 |
| Абутнік | 16 | 2 | 4 | 10 | 9-25 | 8 |
| БелАЗ | 16 | 1 | 2 | 13 | 9-38 | 4 |

Бамбардзіры: С. Бараноўскі ("Дынама" Мн) –9, У. Каваленя ("Шахцёр")– 8, С.Гоцманаў ("Дынама" Мн), Ю.Мазурчык ("Хімік"), А.Пушіла ("Беларусь"), А.Скарабагацька ("Днепр") – па 7 мячоў.



# ... І РАЗЫШЛІСЯ МІРНА

## Беларусь– Украіна – 1:1

Нарэшце дачакаліся. Памераліся сіламі на ўзроўні зборнай. Хаця і са старымі сябрамі, знаёмымі, суседзямі, хаця і ў таварыскім матчы, але зразумелі, пасталелі, паверылі. Зразумелі, што не будзем хлопчыкамі бездапаможнымі, пасталелі на адзін выдатны матч, паверылі, што ў якімсьці сапраўдным турніры статыстамі не будзем. "Цяпер Расію давай!"– гучала пасля гэтага матча думка. Маўляў, мы не горшыя!



Наша каманда сапраўды выглядала зусім нядрэнна. Мінскае "Дынама" наогул зараз вельмі моцная каманда, асабліва пасля вяртання з-за мяжы Зыгмантовіча і Гоцманава. Ёй бы больш гульняў з моцнымі сапернікамі, а яшчэ лепш – з пераўзыходзячымі яе класам. Што тычыцца зборнай, то яе вельмі ўзмацнілі легіянеры Валерый Шанталосаў, Сяргей Алейнікаў і Аляксандр Мятліцкі. Як цудоўна адстаяў у варотах першы і як прыгожа білі па варотах і стваралі галявыя сітуацыі абодва другія.

Пра сапернікаў. Зборную Украіны ў адсутнасць кіеўскіх дынамаўцаў і галоўнага трэнера Анатоля Канькова, якія чамусьці аказаліся звязанымі ў адно цэлае, прывезлі настаўнікі двух лідзіруючых у чэмпіянаце клубаў – "Дняпра" і "Металіста" – стары знаёмы мінскіх балельшчыкаў Мікалай Паўлаў і Леанід Ткачэнка. Зразумела, ігракі гэтых каманд і склалі аснову зборнай. У той дзень на поле выйшлі па два прадстаўнікі адэскага "Чарнаморца" і..."Глазга Рэйнджэрс". Міхайлічэнка і Кузняцоў былі, на жаль, адзінымі легіянерамі ў складзе ўкраінскай каманды, бо яны, безумоўна, узмацнілі яе гульню. Гатовы паспрачацца, у іншых матчах нацыянальнай каманды Украіны легіянераў будзе, калі ўсе здолеюць прыехаць, больш за палову.

Матч пачаўся павольна, але напружана. Паступова нашы захапілі ініцыятыву і далей мелі перавагу. Увагу прыцягвалі ўсё тыя ж асобы, пра якіх ужо казаў. На дваццаць першай хвіліне праз доўгі перапынак зноў убачылі далёкі і моцны ўдар Мятліцкага, пагլядзелі яго прыгожыя далёкія перадачы, адну з якіх ледзь не замкнуў Алейнікаў. Бачны былі ў гульні Зыгмантовіч, Дземенкавец, Вялічка. Наогул, да трыццаць шостай мінуты ў Шанталосава работы не было. Але толькі яна ў яго з'явілася, нашы моцна атакуюць і ў штрафной адкрыта збіваюць Алейнікава. Маскоўскі арбітр – добра вам знаёмы Аляксей Спірын зусім як у былыя часы пенальці не прызначае, як, дарэчы, у падобнай сітуацыі (не па гульні – па зместу), у сярэдзіне другога тайма. Тады збілі Герасімца.

Гол нашы футбалісты забілі ўсё ж першыя. Зрабіў гэта ў другім тайме Сяргей Гоцманаў, якому падаў ад вуглавога флажка цёзка Герасімец. Зраўняў лік Юрый Максімаў, днепрапятровец, які незадоўга перад тым замяніў славутага "Міху". Так унічыю і згулялі. Настрой застаўся добры ва ўсіх. У настаўнікаў і футбалістаў, таму што не сапсавалі яго другім, у балельшчыкаў (і ў мяне таксама), таму што нарэшце паглядзелі вельмі прыгожы футбол.

...Разышліся, раз'ехаліся ўсе даволі хутка. Амаль адразу з поля пабеглі да цягніка Алейнікаў з Мятліцкім – той адыходзіў праз дваццаць хвілін пасля фінальнага свістка. Украінскай камандзе трэба было паспець падняцца ў паветра на сваім самалёце да васьмі гадзін. Таму хутка развіталіся, шчыра спадзеючыся хутка сустрэцца зноў.

А алімпійскія зборныя тых жа краін сустрэліся ў той жа дзень у Цярнопалі. Там вынік – нулявая нічыя. Што ж, цяпер пачакаем гульні маладой каманды Івана Савосцікава перад сваімі гледачамі. Зразумела, у будучым годзе.



### БАСКЕТБОЛ

На мінулым тыдні першы матч розыгрышу Кубка чэмпіёнаў згуляў мінскі "Гарызонт". Нашы дзяўчаты на сваёй пляцоўцы прайгралі, на жаль, венгерскім чэмпіёнкам — камандзе ПВСК "Пёч" — 60:78.

### ГАНДБОЛ

Мінскі СКА яшчэ чакае старт у розыгрышы еўрапейскага трафея, на гэты раз — Кубка ІГФ. Заўтра а 15 гадзіне ва Уручанскім Палацы лёгкай атлетыкі наша каманда будзе прымаць славенскі клуб "Колінска Слован". Поспеху!

### ВАЛЕЙБОЛ

Таго ж жадаем дзяўчатам мінскага "Камунальніка", які абедзве сустрэчы Кубка кубкаў з "Рыекай", харвацкай камандай, згуляе 8 і 14 лістапада на пляцоўцы саперніц.

### ХАКЕЙ

Яшчэ некалькі цікавых міжнародных матчаў пагլядзім у бліжэйшыя дні ў мінскім Палацы спорту. Афіцыйна дэбютуе зборная Беларусі, якая ў невялікім турніры паспрачаецца за адну з дзвюх пуцёвак на чэмпіянат свету ў групе "С" з суседняй Украінай і Казахстанам.

Падстаў для аптымізму ў нашых балельшчыкаў аніякіх. Асабліва пасля апошніх вынікаў гульні нашай самай моцнай каманды — мінскага "Дынама" — за Кубак МХЛ. Вось яны: "Рыгас Старс" — "Дынама" — 4:2 і 3:0, "СКА" (Санкт-Пецярбург)—"Дынама"— 3:2 і 2:0. Ці будзем працягваць сумную статыстыку?

### ШАХМАТЫ

Мінскі гросмайстар Барыс Гельфанд усё ж прайграў галоўны прыз буйнога турніру ў Тылбургу англічаніну Майклу Адамсу. Дзве асноўныя партыі завяршыліся ўнічыю, дзве ж дадатковыя са скарочаным часам наш зямляк прайграў з лікам 0,5:1,5. Грашовы прыз англічаніна — сто тысяч гульдэнаў, Гельфанд атрымаў суму ўдвая меншую.

### ФУТБОЛ

Адбыліся чарговыя матчы ў еўрапейскіх адборачных групах чэмпіянату свету'94. У трэцяй адборачнай групе зборныя Літвы і Латвіі сустракаліся ў Вільнюсе. Гэта ўжо другая іх сустрэча ў межах гэтага турніру. Нагадаем, першы матч у Рызе выйгралі літоўцы (2:1). На гэты раз нічыя — 1:1. Мячы забілі лепшыя форварды-легіянеры гэтых каманд Лінардс і Фрыдрыкас.

Зборная Расіі экзаменавала на зусім заснежаным полі зборную Люксембурга. Два пераможныя мячы ў матчы забілі Юран і Радчанка. З трох, дарэчы, забітых у турніры зборнай Расіі мячоў два — на рахунку Юрана. Відаць, было за каго спрачацца ўкраінцам з расіянамі.

Старонку падрыхтаваў спартыўны аглядальнік Яўген ПУЧКОЎ.
Тэл. 32-50-01.

Фота Сяргея БРУШКО.

